ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

28 лістапада 1997 г. № 48/3924 Кошт 3 000 руб.

## "ВУЧУСЯ... ШЧЫРАСЦІ Ў КУПАЛЫ"

***Нататкі пра творчасць лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Дануты БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВАЙ з нагоды яе юбілею***

**6—7**

## ШРАМЫ НА СЭРЦЫ

***Абразкі Леаніда КАЛОДЗЕЖНАГА***

**8—9, 12**

## РАТУЙМАСЯ

***Уладзімір ІВАНОЎ: "Я не за сухі закон, але я ўсё ж хачу заняць аб'ектыўную пазіцыю і сказаць, што дзяржава можа і павінна ўплываць на гэтыя працэсы і не дапускаць татальнай дэградацыі нацыі".***

**14—15**

## "ЛІТАРАТУРА І ПАЛІТЫКА — РОЗНЫЯ РЭЧЫ..."

***Таіса БОНДАР: "Патрыятызм для мяне — гатоўнасць аддаць сваю працу, свой талент дзяржаве. Не ўвесь жа ён у тым, каб бегаць з лозунгамі".***

**16**

### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Працягваецца падпіска на наш тыднёвік на першую палову 1998 года. Падпісацца на "ЛіМ" можна ў любым паштовым аддзяленні.*

*Кошт тыднёвіка для індывідуальных падпісчыкаў на месяц — 15 тысяч, на квартал — 45 тысяч, на паўгоддзе — 90 тысяч, для ведамасных падпісчыкаў на месяц — 25 тысяч, на квартал — 75 тысяч, на паўгоддзе — 150 тысяч.*

**Наш індэкс — 63856.**



*Снягамі засыпаны сцежкі, пагоркі,*
*Рачулкі святлыня схавана пад лёд...*
*Гляджу на прастор і мне сумна і горка,*
*Бо я не бываў тут каторы ўжо год.*

*І гэтай зімою, відаць, не збяруся,*
*Каб хоць бы на хвілю згубіцца ў снягах,*
*У белых, у светлых снягах Беларусі,*
*Нібыта ў сівых і завейных вяках...*

ШЛЯХІ

# Вялікі скарб еднасці,

## або Чаму партрэт Беларусі XVII—XVIII стст. носіць назву "Сармацкага"?

КАЛІ ЗВЯРТАЕШСЯ да генетычнай памяці з пытаннем — хто мы, і адкуль, што з намі было і што чакае, узнікаюць вобразы, летуценні, гістарычныя гіпотэзы. Адна з іх падвяла мяне да ідэі араба-ісламскай філасофіі сярэднявечча, якая сцвярджала эманацыю Мноства з Адзінства і вяртанне Мноства ў Адзінства — прысутнасць Адзінага ў Мностве. Арабскія філасофы былі перакананы ў структурным падабенстве цела чалавека і Космасу. Чалавека яны разглядалі як "малы Космас", а Космас — як "Вялікага чалавека".

У пошуках шчасця ім бачыўся "Ідэальны Горад", аналагічны целу Космасу. Асэнсаванне арабамі суцэльнасці як касмічнага закона прывяла да збору ведаў, кніг з Усяго Свету, пабудовы Дома мудрасці, у стварэнні якога побач з мусульманамі рашаючую ролю адыгралі сірыйскія хрысціяне. Таму невыпадкова, што на гэтай духоўнай глебе з прыходам да ўлады Абасідаў (VIII ст.) у згодзе і дабрабыце расквітнела дзяржава Арабскага Халіфата.

Але ж, здаецца, не так даўно, усяго з III ст. да н. э. — VII ст. н. э. ад эпохі Ахмянідаў да Сасанідаў на гэтых землях панавала магутная цывілізацыя Персія (Іран). Сама назва Іран — Ары-ан, "Арыйская краіна" — нагадвае аб старажытных арыях, якія тут жылі. Ад Малой Азіі да Балтыкі, ад Вялікабрытаніі да Алтая і Індыі ў V—I тыс. да н.э. распаўсюджваўся арэал носьбітаў і нашчадкаў інда-еўрапейскай моўнай еднасці. Арыі (як скіфы ці полаўцы больш позніх часоў) былі не асобным народам, а саюзам рознаэтнічных плямёнаў. Цікава, што першапачатковай тэрыторыяй іх качэў'я былі паўднёвыя землі Буга і Дняпра, аб чым сведчыць назва ракі Днепр, якая ў тыя часы звалася Індам (Сіндам). Назва Днепр ("рака") пакінута іранамоўнымі скіфамі. Яна азначае літаральна пераклад старажытнага Інда ці Сінда. "Рыг-веда" — духоўны, гістарычны даведнік старажытных Арыяў у сваім першым і галоўным гімне заклікае да Адзінства, Дабра і Згоды. Як і філасофія Арабаў, запаветы "Рыг-веды" спасцігалі Касмічныя законы Суцэльнасці, Гармоніі, Святла. Але з цягам часу чалавецтва здрадзіла законам і было пакарана Космасам на раз'яднанне. Паводзінамі чалавецтва ўзрушылася нават Маці-Зямля. І з суцэльнага адзінага прамацерыка (Пангея) раскалолася на мацерыкі, астравы і асколкі-астраўкі — як напамін людзям аб вяртанні да вытокаў Адзінства ў Сусвеце.

Але агеньчыкі святла тых плямён, што не страцілі мэты адзінства як умовы жыцця, што не пабаяліся ўзяць на свае плечы цяжар гістарычных падзей і прадоўжыць жыццё на зямлі, асеўшы на тэрыторыях стомленых, знікаючых цывілізацый, падкінулі паліва ў іх затухаючыя вогнішчы.

Так, у стэпах Ніжняга Задоння яшчэ да нашай эры з'явіліся плямёны, якіх грэкі абагульнена называлі "сарматамі". У рымска-візантыйскі час за імі замацавалася назва "аланы". Гэта быў кангламерат качавых плямёнаў, паляўнічых і жывёлаводаў, выдатных воінаў, сярод якіх і жанчыны поруч з мужчынамі ўдзельнічалі ў ваенных набегах і займалі ганаровае месца ў грамадстве. Менавіта жанчыны Сарматыі сталі прататыпамі паданняў пра амазонак.

З IV—II ст. да н.э. частка сармацкіх плямён, аб'яднаўшыся ў магутны саюз, выцесніла скіфаў з Падоння і рушыла на захад. Актывізаваўся гандаль з прычарнаморскімі антычнымі гарадамі і Каўказам, наладзіліся сувязі са старадаўнімі цэнтрамі ўсходніх цывілізацый. У асяроддзі сарматаў утварылася свая знаць і магутныя конныя дружыны...

А цяпер пра тое, што і вымусіла мяне прыгадаць гісторыю сарматаў. Справа ў тым, што патомкамі іх называла сябе ў XVI ст. шляхта Рэчы Паспалітай, і такое атаясамленне не магло не зацікавіць.

Жывапіс, графіка, партрэт Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай (і Беларусі) XVII—XVIII стст. носіць назву "сармацкага". Гэтыя назва і з'ява прывабілі мяне і збудзілі жаданне глыбей і падрабязней пазнаёміцца з ёю яшчэ і таму, што 600 год жывуць на Беларусі татары, нашчадкі прафесійных вояў ВКЛ і Рэчы Паспалітай, якія мелі шляхецкія званні, радаслоўныя дрэвы, гербы, тамгі — атрыбуты, падобныя на тыя, што ёсць на "сармацкіх партрэтах".

А таямніцы прысутнасці ўсходніх рыс у вобразах і адзенні прывялі да пошукаў апісання відавочцамі нацыянальнага касцюма шляхты.

Французскі вандроўнік дэ Ламбурэр так малюе вобраз шляхты ў 1646 г.: "С великолепием, возбудившим всеобщее изумление, выступил отряд из 200 человек шляхты, принадлежащей к знаменитнейшим родам. Одежды их были большей частью персидские, златотканые с цветочным узором или из бархатов различнейших расцветок. Одежды были подбиты бесценными мехами, там были собольи спинки и пантеры. Под платьями — туники, сплошь из златотканого материала или бархата, золота, серебра или шелка, вышитые руками. Так же точно и головные уборы отделаны были куньим мехом, а плюмажи из перьев черной цапли схвачены были в зависимости от богатства аграфами из бриллиантов".

У культуры і побыце шляхты "ўсходні стыль" меў самае шырокае распаўсюджванне. Я. Тазбір піша, што нават мясцовая зброя аддавалася для апрацоўкі, каб прыдаць ёй "усходні каларыт": "Чем шляхтич богаче — тем больше наряд его напоминает убранство турецких вельмож и даже самого турецкого султана". І іншыя еўрапейцы, пабываўшыя ў Рэчы Паспалітай, дакладалі аб усходнім бляску і раскошы — характэрных якасцях шляхецкіх густаў. Дзівоснае багацце бачылі тут вандроўнікі. Яркім пацвярджэннем да сказанага з'яўляюцца ўсім вядомыя слуцкія паясы. Каб наладзіць вытворчасць гэтых шыкоўных твораў, Казімір Радзівіл у XVIII ст. прывёз у Слуцк персаў і турак. На вучобу ў Персію былі пасланы беларускія майстры Томас Хаецкі і Ян Гадоўскі, якія прывезлі адтуль матэрыялы, тэхналогію і абсталяванне. Мусіць, "нешта ёсць" у гэтай беларускай зямлі, што спрыяе не толькі выжыванню, але і росквіту ўсходніх парасткаў.

Каб зразумець, хто праклаў масток паміж славянамі і персамі, звернемся да Персіі III ст. да н.э. — III ст. н.э. — час Парфянскага царства, у склад якога ўваходзілі сарматы. У гэты перыяд наглядалася больш актыўная іранізацыя насельніцтва ўсіх блізкіх плямён і народаў. Дарэчы, слова "шляхта" мае іранскае паходжанне. У эпоху Сасанідаў шляхтай называлі багатых людзей, якія мелі павагу ў грамадстве і вялікія зямельныя надзелы. У верхненямецкай старажытнай мове шляхта азначала род, пароду. Цяпер зразумела, што "легендарныя продкі" ВКЛ — сарматы, яны ўзбагаціліся духоўнай, культурнай, вайсковай, моўнай спадчынай арыяў (дакладней Ірана, ці Персіі) і накіраваліся да Крыма ў пошуках новых заваёў. На той час (I ст. да н.э. — I ст. н.э.) скіфы, гаспадары прычарнамор'я, прыйшлі да заняпаду, яны не вытрымалі націску добра ўзброеных вершнікаў-сарматаў, ці аланаў. (Аланы — уланы, мяркую, ёсць сувязь між гэтымі словамі. Уланы — лёгкая конніца з татар у войску Вялікага княства Літоўскага).

Такім чынам, паўночнае ўзбярэжжа Чорнага (ці Сармацкага) мора, Крым займаюць сарматы, стварыўшы новую дзяржаву — Баспорскае царства. Багатыя сарматы, якія пасяліліся ў Баспорскай дзяржаве, сталі пасрэднікамі ў гандлі паміж мясцовым насельніцтвам і грэчаскімі гарадамі, садзейнічалі ўзаемапранікненню і ўзаемасувязі культур. Мастацтва баспорцаў уяўляла сабой адну з галін антычнага, але мела свае спецыфічныя асаблівасці. Жывапіс вызначаўся вялікім дэкаратыўным майстэрствам. Асноўным, як у скіфаў, так і ў сарматаў, было ўжытковае мастацтва. Паліхромна-інкрустацыйны стыль увабраў у сябе асаблівасці "звярынага стылю" скіфскіх часоў. Косць — як самы танны матэрыял — апрацоўвалі са старажытных часоў: лыжкі, абкладкі калчанаў, амулеты. Захаплялі сваім выглядам створаныя сармацкімі майстрамі дарагія ўпрыгожванні з золата, інкруставаныя каштоўнымі камянямі. (Трэба адзначыць, што пачуццё дэкаратыўнасці, цяга да пышнасці, шыкоўнасці, раскошы назіралася як у жыцці і побыце шляхты ВКЛ, так і ў іх "сармацкіх партрэтах").

Пранікненне мясцовых звычаяў у жыццё баспорцаў распаўсюдзілася і на выкананне надмагільных стэл, якія з аб'ёмных становяцца больш плоскімі. Верхняя частка такой пліты звычайна ўпрыгожвалася пальметай, шэрагам невялікіх разетак, а ў нішах арачнага тыпу размяшчаліся постаці памерлых. Зверху такая пліта нагадвае франтон. Усе гэтыя скульптурныя асаблівасці характэрныя для стэл ВКЛ, Рэчы Паспалітай, толькі ў больш тагачасным пышным, барочным стылі. У народным мастацтве сарматаў шырока распаўсюджваліся гліняныя пасудзіны з ручкамі ў выглядзе барана, каня ці птушкі. Сустракаліся таксама фігурныя пасудзіны ў звярыным стылі, што прасочваецца і ў сучаснай кераміцы Беларусі. А посуд, што носіць назву "гляк", таксама меў месца ў майстроў Баспорскага царства. Але самае цікавае, што сведчыць пра сарматызацыю мясцовага Крымскага насельніцтва, гэта загадкавыя знакі, якія неаднаразова сустракаліся на баспорскіх помніках. Некаторыя з іх расшыфроўваюцца як імянныя знакі баспорскіх цароў. Так у верхняй частцы пліты галоўнага сармацкага перакладчыка 208 г. н. э. змешчаны імянны знак Саўрамата II, які замяняе імя, тытул цара, — такім знакам звычайна пачыналіся падобныя афіцыйныя надпісы. Даволі часта з'яўляецца знак стралы ці кап'я, якія былі сімваламі мужчынскага бога яшчэ ў неалітычныя часы веравання індаеўрапейцаў. У крымскіх татар такія знакі сталі называцца тамга — адмеціна (цюрк). А на шматлікіх шыкоўных партрэтах XVI—XVIII стст. шляхціцаў Хадкевічаў, Весялоўскіх, Радзівілаў, Сапег, Тарнаўскіх — гербы з выявамі тамгі: стралы, кветкі, рога — сімвала духу, змяі — сімвала мудрасці, паўмесяца з зоркай і інш. Таму партрэт XVI—XVIII стст. з'яўляецца не толькі творам мастацтва, а яшчэ (можа, і найперш) генеалагічным дакументам, які ўвекавечвае прадстаўніка таго ці іншага роду і з'яўляецца яго своеасаблівым "пашпартам". Кожны буйны феадал імкнуўся не толькі да багацця, да ўплыву на дзяржаўныя справы, але і жадаў пакінуць сваім нашчадкам сведчанне сваёй вядомасці і славутасці. Такім сведчаннем мог стаць партрэт з адлюстраваннем на ім усіх атрыбутаў радавітасці, улады і багацця. Шляхта лічылася "рыцарскім саслоў'ем", закліканым абараняць дзяржаву і кіраваць ёй, таму што разглядала сябе як асобны шляхецкі народ, што вядзе сваё паходжанне ад антычных сарматаў.

У сувязі з гістарычнымі заканамернасцямі на змену адным цывілізацыям прыходзяць другія. Так і сарматы ў II ст. н.э. разам з готамі і славянамі стварылі дзяржаву ад Балтыкі да Дуная, якая пасля нядоўгага існавання распалася пад напорам гунаў, у перыяд вялікага перасялення народаў. Пасля распаду Баспорскага царства Крым трапляе ў залежнасць ад Візантыі, і паступова паўночную частку яго пачынаюць засяляць цюркамоўныя народнасці з Прычарнаморскіх стэпаў: у VII ст. — хазары, XI—XII стст. — полаўцы, татара-манголы, нагаі, туркі-сюльджукі. На час стварэння Крымскага ханства (1443 г.) там жылі грэкі-візантыйцы, армяне, італьянцы-генуэзцы, готы, туркі-асманы, чаркесы, грузіны, малдаване.

Крымскія татары сфарміраваліся ў выніку зліцця цюркамоўнага насельніцтва тутэйшых жыхароў, таўраў, кімерыйцаў, сарматаў. Назва "татары" аб'яднала і абагульніла шматлікую колькасць народаў. Вядомы цюрколаг Д. Ярамееў паходжанне гэтага этноніма звязвае са старажытнаперсідскім народам. У этноніме "татар" першы кампанент "тат" можна супаставіць з назвай аднаго з плямён старажытнага Ірана. Першапачатковае значэнне слова "тат" было хутчэй за ўсё "іранец", "размаўляючы па-іранску", а затым гэтым словам сталі вызначаць усіх чужакоў. Шматлікія аўтары паходжанне слова "татар" вядуць ад кітайскай мовы. Пад назвай та-та, да-да ці татан яшчэ ў V ст. у Паўночна-ўсходняй Манголіі і Маньчжурыі жыло адно мангольскае племя. У асобных дыялектах кітайскай мовы іх называлі тартар і татар. Гэтая назва трапіла ў Еўропу да мангольскага нашэсця, дзякуючы вандроўнікам-купцам, якія пабывалі на ўсходзе. Больш таго, у часы сярэднявечча ў заходнееўрапейскай літаратуры і рускіх атаясамлівалі з татарамі. Масковію называлі Тартарыяй, паколькі рускія былі ў залежнасці ад Залатой Арды. Еўропа лічыла сябе цэнтрам зямлі і культуры, таму ўсе іншыя народы былі для яе варварамі — татарамі. Па сведчанні рускіх вучоных, слова "татары" ўжывалася замест скіф, сармат, варвар ці проста не рускі. Так, нават арочаў, якія жылі каля Ціхага акіяна, называлі татарамі — адсюль і назва Татарскага праліва. Пазней, па меры вывучэння Усходу, рускія і заходне-еўрапейскія вучоныя пачалі адрозніваць этнічны склад рэгіёна і этнонім "татары" ўжылі да абазначэння цюркамоўнага насельніцтва... Як відаць, частку старажытных здабыткаў прынеслі таксама і татары — ардынскія ханы і воі ў ВКЛ. У 1397 г. хан Тахтамыш са сваёй дружынай з-пад Азова і Крыма прыйшоў да Вітаўта.

А далей было агульнае жыццё, агульная гісторыя. Калі распачалася вайна з тэўтонцамі ў 1410 г. у шматлікай раці Вітаўта знаходзілася, па звестках летапісцаў, 30 тыс. саюзных татар хана Джэлал-эд-дзіна, сына хана Тахтамыша. Ад рукі хана Багардзіна загінуў апошні вялікі магістр ордэна — Ульрых фон Юнгінген. Джэлал-эд-дзін пасля перамогі пад Грунвальдам застаўся на нейкі час у Літве. Вітаўт паспеў зацвердзіць яго на ханства Кіпчака, а пазней яго дзеці паспыталі апекі вялікага князя. З тых часоў татары яшчэ больш зблізіліся з Літвою і засталіся вернымі яе саюзнікамі. Яны вызначаліся добрасумленнасцю, вернасцю, адданасцю ваеннай справе; служылі ў так званых, уланскіх палках, мелі высокія пасады, заслугоўвалі княжацкія званні.

Пасля аб'яднання ВКЛ з Польшчай заканадаўства прызнала і зацвердзіла за татарамі ўсе правы і прывілеі шляхты, хаця доступ у саслоўе быў магчымы толькі ў выключных выпадках за вялікія заслугі. Польскія каралі абапіраліся на рыцарства і таму былі вымушаны задавальняць яго патрабаванні і расшыраць правы.

Афіцыйнае зацвярджэнне шляхты адбылося ў XIII—XIV стст. пераважна з воінаў-прафесіяналаў (рыцараў). Сярод іх разам з мясцовымі рыцарамі была дружына хана Тахтамыша і іх нашчадкі. Гербы, пячаткі, знакі (тамгі) XIV—XVI стст. сведчаць пра існаванне каля паўсотні знакамітых татарскіх родаў. Істотна, што прозвішчы набылі беларускамоўнае гучанне, але назвы старажытных плямёнаў захаваны. Напрыклад: Александровічы з роду Іскандэр, Шабановічы — ад Шэйбан, Бараноўскія — ад Барын, Кандратовічы — ад Конград, Асановічы — ад Асан і г.д.

Гісторыя захавала шмат герояў ВКЛ, Рэчы Паспалітай, чые радаслоўныя пачыналіся з татарскіх каранёў: князі Глінскія, Якуб Ясінскі, Сапегі, Т. Касцюшка, Якуб Бабіч і інш. Патрабуецца больш пільнае даследаванне гэтых і іншых гістарычных асоб, як і радавода герояў "сармацкіх" (татарскіх) партрэтаў.

Праз пазнанне чалавека пазнаецца Сусвет, а праз асэнсаванне Сусвету адкрываюцца законы гармоніі, святла, адзінства, дабра і згоды, што такія сучасныя і неабходныя ў наш нялёгкі час.

600-годдзе адзінага гістарычнага лёсу — гэта вялікі скарб еднасці жыцця, светапогляду, псіхалогіі, характару, мовы, вывучэнне і адкрыццё якога неабходна для нас і нашчадкаў у справе адраджэння і ўзвышэння нашай Радзімы маці-зямлі — любімай Беларусі.

**Айша АЛЕКСАНДРОВІЧ**

*такое ласкавае, цёплае, чыстае,*
*як сонца, агністае,*
*як Нёман, празрыстае,*
*як казка, быліна, як песня, жаданне,*
*дагэтуль зусім у жыцці не спазнанае,*
*вясновае слова ад шчырага сэрца...*
*Яно празвінела над хвалямі ў рэчцы.*
*Вятрыска шаптаў*
*яго з лісцем між гаю —*
*кахаю, кахаю...*

Некалькі тэм лёгка паядноўваліся ў творы — каханне, захапленне роднай моваю і любоў да Беларусі. А таму і лёгка, што калі пісаліся гэтыя радкі, менш за ўсё думалася пра тэматычную напоўненасць твора, а нязмушана і ўпэўнена вылівалася, ператваралася ў споведзь тое, што вымагала даверу. Паэтцы хацелася, каб голас яе быў пачуты. Пачуты не ў тым сэнсе, што існавала заканамернае і зразумелае кожнаму творцу (асабліва маладому) жаданне надрукавацца. Хоць не без гэтага. На першым плане ўсё ж прысутнічала ўнутрана-набалелае, выпакутаванае ад усведамлення, што вельмі шмат тых, хто гэтай чароўнасці цураецца. А ў маладым узросце падобнае ўспрымаць асабліва балюча. І Д. Бічэль-Загнетава прамаўляла сваю песню аб мове. Менавіта песню, а не гімн. Бо гімн — гэта нешта ўрачыстае, узнёслае, а тут пяшчотнае, лірычна-засяроджанае, тое, за чым праглядваецца чулая душа і няўрымслівае сэрца:

*Шапталі яго сенажаць і дуброва,*
*людзьмі перачутае, некаму нова,*
*адзінае, дзіўнае, светлае слова —*
*кахаю, люблю...*
*Кахаю... Люблю. Беларускаму краю*
*бясконца я слова "люблю" паўтараю.*
*Калоссям жытнёвым*
*і шчырым размовам.*
*У грукаце-ўздыме вялікім будовам.*
*Палеткам калгасным, зялёнай дуброве*
*кажу гэта слова на матчынай мове.*

Словам "люблю" і напоўнена ўся творчасць паэткі. І якую кнігу ні возьмеш — "Дзявочае сэрца", "Нёман ідзе", "Запалянкі", "Доля", "Ты — гэта ты", "Дзе ходзяць басанож" (за яе, як вядома, Дануце Іванаўне ў 1984 годзе нададзена званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы), "А на Палессі" і іншыя — абавязкова скразным матывам праходзіць апяванне самой Беларусі і зямлі наднёманскай у прыватнасці. Ды і ў кніжках для дзяцей, а іх у Д. Бічэль таксама ладны стос набярэцца ("Перапёлка", "Грыб-парасон", "Дзічка", "Рыжая палянка", "Дагані на кані", "Лузанцы", "Габрынька і Габрусь"...) зноў жа не на апошнім месцы — згаданыя матывы. Маленькім прывіваецца любоў да ўсяго роднага, у іх выхоўваецца пачуццё адданасці зямлі, на якой яны нарадзіліся.

Пры жаданні можна знайсці нямала прыкладаў — і з "дарослых" кніг Д. Бічэль-Загнетавай, і з яе зборнікаў для дзяцей, каб падмацаваць правільнасць падобнай высновы. Асабліва з вершаў, напісаных апошнім часам, з тых, што пакуль у кніжкі не трапілі. Але, скажу шчыра, мне куды прыемней звяртацца да тых твораў паэткі, якія маюць "узрост" ужо не адзін дзесятак гадоў. А таму і прыемна, што яны не патрабуюць ніякай часавай карэкціроўкі. Быццам з сённяшняга дня ўзяты, нібыта нядаўна напісаны. А ці не гэта найбольш яскравая адзнака таленту, які, калі ён глыбокі ў сваёй сутнасці, ніколі на дробязі не разменьваецца. І апярэджвае свой час, і здатны глядзець наперад.

Пацвярджэнне таму і верш "Каложа". Гэта сёння напісана нямала твораў падобнага кшталту, сярод якіх, праўда, нярэдка сустракаецца і звычайная даніна модзе, а тады... Святлела на душы, харашэла на сэрцы, калі ўслухоўваўся ў голас паэткі кожны, каму, як і ёй, усё гэта аднолькава "балела". З-за ўсведамлення абыякавасці многіх да гісторыі:

*Каложа!*
*Каложа мая прыгожая!*
*Ты і ў завею, як летам, пагожая.*
*Клёнам тваім, пэўна, сто гадоў.*
*А можа, іх пасадзіў Міндоўг?*

З гэтага першага, у гады юнацтва, далучэння да нацыянальнай гісторыі пазней выраслі іншыя творы, у якіх ужо прысутнічаюць постаці знакамітых беларусаў Цёткі, Каліноўскага, Купалы, Хадыкі, Жылкі, Караткевіча... Па цаліку нацыянальнай даўніны Д. Бічэль-Загнетава ступала "басанож" — не баючыся, што найчасцей гэта мулка і няпроста. Ды інакш не магла. І не хацела, бо адразу, з першых твораў вызначыла ўласную творчую сцяжыну. У рэшце рэшт і жыццёвую таксама. І годна нясе свой крыж. І сумленна аддае талент народу, роднай зямлі. І працягвае — з верша ў верш, з кнігі ў кнігу — асэнсоўваць сутнасць таго, што ў адным з твораў, напісаных ужо ў гады творчай сталасці, вылілася ў такія радкі:

*Людзі — аблокі.*
*Над выраем-краем*
*нас да магіл узвышае штосілы*
*з фрэскі азораны твар Еўфрасінні.*
*Маем свой край і нічога не маем.*

...Ёсць у Данушы Іванаўны чатырохрадкоўе "Паясок":

*Перасыпаю сонечны пясок,*
*вучуся простай шчырасці ў Купалы.*
*На кросенцах, дзе гукі не ступалі,*
*скую, не дыхаючы, паясок.*

Яе паэзія і сапраўды "простая", калі мець на ўвазе адсутнасць ускладнёных вобразаў, не сверб эксперыментаваць са словам і мудрагеліць з ім. Але адначасова і неабходная. Штодзень патрэбная. Як тое ж слова Купалы...

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

сталіцы. Што да гэтага чалавека можна прыйсці, убачыць на свае вочы, параіцца...

Да таго ж, шчыра кажучы, я не магу ўявіць Данугу Янаўну жыхаркай Мінска, тлумнага, афіцыйнага Мінска з яго спальнымі раёнамі і цацачным Траецкім, дзе на месцы дома, дзе нарадзіўся той самы Паэт, стаіць збудаваны для саноўных бальшавікоў шэры будынак з гастраномам на першым паверсе.

Паэтэса падарыла нам сваю Гародню. Нібыта і сама — увасабленне, вобраз Гародні, шляхетнай, ціхай і таемнай.

Нядаўна атрымала з лімаўскай поштай сціплыя кніжачкі, выдадзеныя ў Гародні: творы Максіма Багдановіча і зборнік вершаў двух паэтаў, якія працуюць у Музеі Максіма Багдановіча, — Дануты Бічэль і Алеся Чобата, іх падарунак Паэту да дня нараджэння.

*Я жыву ў Тваім доме, Максіме.*
*Гэта лёс мой, мяне не прасілі.*
*На твой голас іду Тваім следам.*
*Так, іду за вялікім Паэтам.*

*...Вось прыехала вёсачка з лета*
*у святое дзяцінства Паэта,*
*дзе іх кнігі, іх продкаў імёны,*
*дзе катае іх конік натхнёны.*

Вось і нагадаў пра сябе той драўляны конік, на якім гайдалася Веранічка... Успомнілася Гародня, яе брукаванкі, храмы, палацы і замкі. Рамізнік у цыліндры. Лодкі на абмялелым беразе. Прыціхлае гучанне пажаўцелых клавішаў. Светлыя квадраты сонца на дашчанай падлозе. Васількі ў вазачцы.

Віншую Вас, Данута Янаўна, з днём нараджэння! Дзякуй Вам!

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

*Фота Уладзіміра КРУКА*



*Данута Бічэль-Загнетава з Васілём Жуковічам, Нінай Мацяш, Янкам Брылём, Юліяй Канэ, Таццянай Кабржыцкай і Вячаславам Рагойшам. 1976 г.*

---

КНІГАРНЯ

# Спадзяванне на вячэру пад райскім дрэвам

**Ці не гадоў дзесяць назад неўпрыкмет нарадзіўся недавер да дарожнай, пра чужы свет, публіцыстыкі. І сапраўды, адкуль той давер мог узнікнуць? Два-тры тыдні падарожжа, часам у дзве-тры краіны адразу хіба маглі даць вандроўніку падставы на ладны нарыс, а то і на сціплую кніжку? У выніку панавалі ў іх павярхоўнасць, ілюстрацыйнасць турыстычных, скажам так, адбіткаў памяці.**

Праўда, прыкладу дзеля, хочацца згадаць і далёкія па часе, але вартыя ўважлівага прачытання і зараз, вандроўныя ўражанні Янкі Брыля — ад яго паездак па свеце. Тут, безумоўна, перамагае прыцягненне пісьменніцкага таленту. У Брыля — філасофскія развагі, трапныя назіранні, шчырыя і сумленныя высновы. Мо таму і ў яго, Брыля, многае з запісаў "не пабачыла свету з меркаванняў, ад аўтара незалежных". І вось гэта, запісанае ў 1960, таксама надрукавана толькі ў 1994-м ("Свае старонкі" ж друкаваліся, пачынаючы з 1977 года): "Наогул, забягаючы наперад, у Палерма, можна сказаць, што вельмі дзіўна, нават вусцішна глядзець на тое, як "міжкантынентальны англасакскі шавінізм" засмоктвае не толькі нашых беларусаў, не толькі непакорных украінцаў, але нават і рускіх, нягледзячы ні на багатыя традыцыі, ні на шчодрую дапамогу з Радзімы... Няўжо ім, канадскім беларусам і ўкраінцам, таксама дзіўна і вусцішна глядзець, бываючы ў нас, як руская стыхія засмоктвае і Украіну і Беларусь? І няўжо такі жаль — абавязкова нацыяналізм? Права дужага — ясна, але ж у нас была сацыялістычная рэвалюцыя!... І вельмі крыўдна чуць ад рускага таварыша: "А што, ты не мог бы адразу пісаць па-руску? Навошта потым перакладаць?.. " Асабліва складанае гэта пытанне для таго, хто і вельмі любіць Расію, рускую мову, літаратуру, і вельмі хоча быць самім сабою, сынам свайго народа, яго дастойным песняром"...

З новых вандроўных кніг — "Вячэра пад райскім дрэвам" Сяргея Законнікава, параўнальна нядаўна выдадзеная "Мастацкай літаратурай". Жанр сабраных пад адной вокладкай запісаў пісьменнік вызначыў наступным чынам: падарожныя нарысы, дзённікі. Кнігу адкрывае "Палын і васілёк". Сапраўды дзённік, у якім занатавана паездка на штогадовае літаратурнае свята, дзе ўручаюцца прэміі Мандэла. А гэта ў Італіі — на востраве Сіцыліі, у горадзе Палерма. Разам з Сяргеем Законнікавым у дэлегацыі — Ларыса Васільева, Уладзімір Кастроў, Сяргей Бабкоў (Масква), Раман Лубкіўскі (Украіна), а яшчэ перакладчык Яўген Салановіч, дагестанскі паэт Расул Гамзатаў. Падставай для ўдзелу ў міжнародным паэтычным свяце нашага земляка стаўся верш Сяргея Законнікава "Маміна хустка". Сам паэт так, досыць лаканічна і сціпла, выказаўся пра верш: "Ён імгненна выліўся з душы, і цяпер, калі я чытаю яго, то кожны раз здаецца, што зноў вярнуўся ў родную хату, зноў прытуляюся да мамінай хусткі, чую яе непаўторныя пахі". Італьянцы прыхільна сустрэлі перакладзеную на іх родную мову "Маміну хустку". Але ж, вядома, размова ў дзённіках — не пра ўласную творчасць. С. Законнікаў падрабязна, нанізваючы адну драбнічку да другой, расказвае пра ўласнае адкрыццё сучаснай Італіі. Услед за Палерма разам з аўтарам мы трапляем у Катанію, пасля ў Рым. С. Законнікаў уважлівы, назіральны да падрабязнасцяў. Нязмушана расказвае пра прыкметныя архітэктурныя, мастацкія помнікі. Узнаўляе альбо камусьці з чытачоў упершыню прыадчыняе веданне пра адметнасці, гістарычныя каштоўнасці Ватыкана, Сікстынскай капэлы. Расповед ніколі не падаецца лішнім, мажліва, з-за таго, што разам знітоўваюцца асаблівасці, якія нікому, акрамя самога аўтара, і ўгледзець нельга было, не ставала на тое яго, законнікаўскага, бачання Італіі.

Напрыканцы яшчэ адно ўражанне ад італьянскага нарыса. Напісаны ён у 1984 годзе. Але і сёння чытаецца лёгка, свабодна. Нарыс мяжу перамен вытрымаў, відавочна, па адной прычыне — у сваім публіцыстычным даследзе паэт не спяшаўся ганьбіць чужы лад жыцця.

"Сум па "Бранкавым коле" — падарожжа ў Югаславію. Тады яшчэ ў Югаславію. І вось у гэтым нарысе асабліва выяўляецца адна выразная адметнасць "міжнароднай", калі можна так сказаць, публіцыстыкі С. Законнікава. Пішучы пра далёкую краіну, пра сустрэчы з новымі людзьмі, паэт заўсёды памятае пра родны край, заўсёды параўноўвае. Але не гэтак формы жыцця, дабрабыт, колькі нацыянальныя характары, самасвядомасць, памкненні народаў да ўсталявання справядлівасці, суверэнітэту і незалежнасці ўласнай айчыны.

Дарога ў Югаславію звяла аўтара кнігі з літоўскімі пісьменнікамі. Пра гэта — адступленне- згадка пра выставу "Літва ў выгнанні", з якой С. Законнікаў пазнаёміўся яшчэ ў Вільні. Дазвольце з гэтай нагоды невялікую цытату: "Была на той выставе і фатаграфія, якая запомнілася мне. Я доўга ўглядаўся ў анёльскі, ясны тварык знясіленай, змардаванай, апранутай у рыззё, маладзенькай (мабыць, пятнаццаць ці шаснаццаць гадоў) дзяўчыны, якая на лесапавале, стоячы па пояс у глыбокім снезе, упёршыся доўгім калом у ствол, закусіўшы вусны, піхае сваімі тоненькімі, худзенькімі ручкамі падрэзаную ў камлі, тоўстую, у два абхваты, лістоўніцу...

Мяне, як галоўнага рэдактара часопіса, часта папракаюць: "Чаму вы столькі ўвагі надаяце тэме сталінскага тэрору і рэпрэсій? Пагаварылі — і хопіць". Не, не хопіць! Трэба ведаць як мага больш, каб жахлівае мінулае не паўтарылася ў яшчэ страшнейшым, пачварнейшым варыянце.

Сталінізм, як і фашызм, жывучы. Ён выходзіць сёння крывавым потам з цела нашага грамадства і доўга яшчэ будзе перашкаджаць нам жыць нармальна, па-чалавечы.

Сапраўды, чаму мы — беларусы — ніяк не можам падступіцца да будаўніцтва незалежнай дзяржавы? Ды таму, што надарвалася, знемагла Беларусь, як тая маладзенькая дзяўчына на лесапавале, захлынулася слязамі і крывёю сваіх лепшых, таленавітых дачок і сыноў..."

У нарысе, у якім С. Законнікаў расказаў пра літаратурнае свята "Бранкава кола", ёсць заключнае слова — "Пастскрыптум спадзявання". С. Законнікаў заўважае, пішучы пра Ваяводзіну, што не хацеў заглыбляцца ў палітычныя праблемы, абмяжоўваўся тым, што бліжэй яму як пісьменніку: культура, літаратура і мастацтва, архітэктура, традыцыі, быт людзей. Так, аўтар імкнецца да сапраўдных і вечных каштоўнасцяў народнага жыцця. Але ж гэта і ёсць палітыка. Усё, што акружае нас, што падштурхоўвае тыя альбо іншыя сілы на рэагаванне ў дачыненні да з'яў мастацтва, культуры, да праяў нацыянальнага і нават, калі хочаце, народнага...

Чаму кніга называецца "Вячэра пад райскім дрэвам" (аднайменны нарыс ці хутчэй нават дакументальная аповесць — пра сустрэчы пісьменніка з Германіяй, з нямецкімі міратворцамі)? Зноў жа, расказваючы пра новыя сустрэчы, С. Законнікаў не забываецца пра Беларусь, вяртае нас у гады ваеннага ліхалецця. Цяжка, няпроста жыць розным людзям і народам у міры. У добрасуседства ўмешваюцца многія жорсткія акалічнасці. Як жа вытрываць, як жа прайсці праз многія выпрабаванні?.. У царкве Марціна Лютэра ў Берліне вісіць палатно, на якім намалявана вячэра пад дрэвам. Пад дрэвам, крыху далей ад разасланага абруса, — маладая пара. Двое закаханых: юнак-турак і дзяўчына-немка. Царква адважылася павесіць такую карціну. А паэт і публіцыст згадвае яшчэ адну вячэру — пад райскім дрэвам, пад яблыняй-райкай у роднай пасляваеннай Глыбачцы. Таму і назва такая ў кнігі. Таму, відаць, і спадзяванне ў яе аўтара на адно: свет можа ўратаваць міралюбівае добрасуседства, спрыянне розных народаў адзін другому.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# ШРАМЫ НА СЭРЦЫ

Леанід КАЛОДЗЕЖНЫ

АБРАЗКІ

Зубовіч азірнуўся — ні гуку, ні агеньчыка наўкола. Зырыла лямпачка толькі праз пару хацін — у галоўнага інжынера камбіната Івана Сымонавіча Лук'янчыка.

"Піруе з кампаніяй сваёй", — каўтнуў сліну.

Пры напаміне пра яду гулка забурчэла ў жываце. Чамусь прыгадалася, як прымаразкамі Гарнак паклікаў яго пасабіць апусціць бочачку гуркоў у падвал. Сцяпана вельмі ўразіла тады Андрэева сутарэнне з мноствам паліц і стэлажоў, загружаных мяснымі ды рыбнымі кансервамі, імпартнымі і свойскімі закаткамі, бутэлькамі і глечыкамі віна, гарэлкі, каньяку. Міжволі ўсплыло, як яшчэ вясной, калі згубіў ад сваіх харомаў ключы, Андрэй, каб пранікнуць у памяшканне, вымаў акно. І ён, Сцяпан, не цямячы, не ўсведамляючы пакуль што мэты, адшчапіў кручок весніц і паклыпаў сцяжынай; абагнуў вугал веранды, з тыльнага яе боку, ад агрэсту, ступіў да таго самага акна, праз якое лез Андрэй, адагнуў прыгнутыя цвікі, выкалупнуў раму і — уздрыгнуў, жахнуўся: што раблю, я ж красці гнятуся! Але не запыніўся, не адмовіўся ад свайго намеру, бяздумна кульнуўся ў чорную зяпу; намацаў карабок, асцярожна цэрануў запалкаю; рыпнуў дзвярыма прыхожай, расхлябіў люк склепа, апусціўся па лесвічцы ўніз.

Ні хмельнага, ні салодкага не чапаў. Браў толькі тушонку. Цэлую сумку нагаціў ёю. Па бляшанцы нават у кішэні курткі ўвапхнуў.

Наверх выкараскаўся ацяжараны.

— Каго бачу! — асляпіў прамень ліхтарыка. — Сусед!? — агламуздзіў бас Гарнака.

— Ці не гаварыў я: злодзей арудуе на тваёй фазэндзе! А ты — не веру, прыдалося табе! — пачуўся кплівы смяшок Івана Сымонавіча. — Каб не прыспічыла мне, каб не выйшаў на ганак — абчысціў бы цябе Зубовіч!

— Хто б падумаў! — тхнула ад Андрэя спіртным.

Удар у сківіцу аглушыў Сцяпана. Ён выпусціў ношку, боўтнуўся. Аднак яго ўтрымаў, бы клешчамі, кароткімі дужымі рукамі Гарнак, узняў пад столю, шпурнуў у светлы аконны праём. Сцяпан шмякнуўся ля шыпаватага куста. Следам за ім выгупнуў Андрэй, раз'юшана пачаў таўчы, мясіць нагамі ляжачага. Той не прасіў літасці, не стагнаў, а курчыўся ніцма і маўкліва прыкрываў далонямі цемя.

— Хопіць, Міхайлавіч! Заб'еш, — перасцярог Лук'янчык сябра. — Адказваць давядзецца.

Гарнак імгненна астыў, згроб Зубовіча за каўнер, вывалак за варотцы, кінуў сярод вулачкі.

З носа, з рота ў Сцяпана цякла кроў, барвовіла снег.

## НАЦЫЯНАЛІСТ

Прадуктовы нагадваў вулей. Мужчыны, жанчыны гаманілі, няўрымсліва таўкліся, тасаваліся. Асабліва тлумна было каля прылаўка. Калі адзаду панаваў спакой, то там чыніўся бедлам: чуліся крыкі, лямант, лаянка.

— Жах! Ну і дзянькі наступілі! — абуралася лупатая кабета. — Народ азвярэў!

— Чакай! Хутка палагаднеем, — чмыхнула другая, рыхлая, ацеслівая. — Падскочуць цэны — ураз падшчэмім хвасты.

— Пабойся Бога! Куды ўжо цэнам узнімацца?! І так канцы з канцамі не зводзім.

Сюды, у фірменны павільён, дзе можна купіць скароміны дзешавей, чым у іншым магазіне альбо на базары, кожнай раніцы сцякалася мноства людзей. Прыблуджвалі нават вяскоўцы.

— Фу, нет больше мочи, Антонина Сергеевна! — скардзіўся чапурыстай дамачцы, якая перамінлася побач, істэрычна-стузаны чалавек. — Ноги подгинаются. Скорее бы отовариться.

— Держите, Валерий Никонович, карман пошире, — скрывіла тая вузкія падфарбаваныя вусны. — Схватишь что из-за торбешников. Мало городской нищеты, так и колхозники лезут, — павяла яна брывом на хударлявую старую ў плюшавай жакетцы.

Бабуля ўздрыгнула, быццам яе ўдарылі, стуліла плечы, заміргала і, бы апраўдваючыся, прамовіла:

— Дык і я ж есці хачу. Я ж не маю ні парсючка, ні кароўкі. Трымаю чатыры курачкі і пеўніка.

— А кто мешает завести? — насупіўся кампаньён Антаніны Сяргееўны.

— Дык жа ж сілы нямашака... Здароўе паганае.

— Лечитесь, — тузанулася дамачка.

— Не грашыце, шаноўныя, — не стрываў я. — Пасаромеліся б.

— Ты чё-о возникаешь? — надыбурыўся мужчына. — В твою контору не звонят. Чо встреешь не в свое дело?

— Разве не видите — адвокат отыскался! — хмыкнула Антаніна Сяргееўна. — В адвокаты нанялся.

Мне зрабілася не па сабе. Закарцела асадзіць нахабаў. Але ўзяла верх развага, і я прыкусіў язык, адно падумаў: ці ж яны вінаватыя — набалела ў іх на душы.

Па меры таго, як пасоўвалася чарга, мацнела штурханіна.

— Стойце! Не цісніце! Пашкадуйце — задыхаюся!

— Гэй, жлабы, не прыцеся напралом!

Перад гладкай размаляванай прадаўшчыцай я ўчаперыўся за бліскучую нікеліраваную парэнчу:

— Будзьце ласкавы, кавалачак ялавічыны, — прагаварыў.

— Чаво?! — зморшчылася гандлярка.

— Гавядзіны і пару свіных ножак для студня, — паўтарыў гучней.

— Не панімаю цібя! — успыхнула маладзіца. — Аткуда такой?

— З неба зваліўся, — памкнуўся аджартавацца.

— Ано і відна, а ішчо галстук усчапіў!

Сярдзіта выгаворваючы, перасмешніца ўсё ж злітасцівілася, узважыла і тое і другое.

— І яшчэ сала з паўкілаграма, — заікнуўся зноў. — Вунь ад таго крайняга кавалка адрэжце.

— Не камандуй! Ат какова даюць — бяры і сматывайся, не задержывай астальных!

— Калі ласка, ад таго, што з праслойкам.

— Сколь можно глагольствовать?! — узбурыла мужчыну. — Гони его, девушка!

— Не отпускайте ему! — умяшалася і Антаніна Сяргееўна. — Пусть научится по-человечески говорить. Он — бэнэфовец. Осмелели! Раньше бы с ними не церемонились. Пора и сейчас прижать. Все непорядки из-за них!

Я выціскаўся з чаргі, а ўслед неслася:

— Националист... Проклятый националист...

## ПЛЕЧАВАЯ

— Дурніца ты, Кларка! Каму са сваёй дзесяцігодкай ты патрэбная? Зараз такіх разумніц — гаць гаці! Колькі я казала: пойдзем на трасу, дык ты губу закапыльвала — не, не! А паслухалася б — даўно б цвіла і пахла. На мяне паглядзі: і сытая, і разадзетая. А хадзіла ж жабрачкай. Канечне, спачатку брыдка было: плечавая! Але скора сцерпілася, — пад глухаваты шэпт колаў, пад людскі тлум прастарэкала ля вуха Света. — Звыкнешся і ты. Галоўнае — валютай зашамаціш.

Слухала Клара і не слухала расфуфыраную сяброўку, маўкліва, адрачона таропілася ў акно, за якім праплывалі то квяцістыя лугавіны, то астравы шатрыстых ніцых лазнякоў, і мыліла ярка напамаджанамі вуснамі.

— У цябе для гэтага — стопрацэнтныя даныя: і мордачка, і фігурка, — буркавала дарадца. — Усе кадры ў драбадан будуць тваімі. Адно — не бянтэжся. Мужчыны — кабялі. Дзярбань іх без жалю. Асабліва старых казлоў. Захочуць такую лялю — раскашэляцца. Вадзілы — чувакі памяркоўныя. Старайся дальнабойшчыкаў ахмыраць, а лепей — чучмекаў розных.

З-за таполевай абсады вымільгнула скрыжаванне. У Клары неўсвядомлена затрымцелі рукі, ногі.

Выслізнулі з аўтобуса ля рэстарана "Єустрэча", дзе заўжды прытарможвалі і грузавікі, і легкавушкі, куды забягалі шафёры глытнуць кока-колы ці мінералкі, утаймаваць голад. Клару яшчэ больш заліхаманіла.

— Чаго калоцішся? — заўважыла Света.

— Н-ня ведаю, — дробна ляснула зубамі небарака.

Напарніца акінула яе кемным позіркам і рашуча сціяла запясце, павалакла ў прыветную будыніну.

— Гайда, вылечу!

Там узяла па фужэру іскрыстага віна, дзюбнула аб ейны сваім і загадала — сербані!

Выйшла Клара паспакайнелая. Шумела ў галаве. Па целе разлілася прыемная цеплыня.

— Ну, акрыяла? — локцем тоўхнула Света.

— Ага.

— Тады — ні пуха, ні пяра! Дзейнічай!

Першай падлаўчыла "кліента" і адчаліла з ім на тралеры Света.

Клара доўга і няўпэўнена тапталася ўскрай пляца. Тунькалася туды-сюды, не адважваючыся падысці да каго-небудзь. Можа б, і не асмелілася, можа б, пастаяла ды і рушыла прэч, калі б не ўпасвілі яе два каратка стрыжаныя жыхары поўдня — высокі, стройны і каржакаваты, пры вусіках. Яны крочылі ад "Сустрэчы". Высокі зашчэмліваў за рыльцы між пальцаў па пляшцы каньяку ў кожнай руцэ, а вусаты таўсцячок нёс бярэма бананаў і пачак "Мальбара".

— Далэко, дэвушка, пут дэржым? — зачапіў яе высокі.

— Адсюль не відно! — неадпаведна выгляду бойка выгукнула Клара.

— Дак садыс! — гоцнуў ён да жучковага лімузіна і паслужліва адчыніў заднія дзверцы.

Дзяўчыну ашаламіла: няўжо ўсё так проста?!

— Садыс, садыс — падкінэм! — скмеціўшы разгубленасць, далікатна папіхнуў яе ў салон і следам нырнуў сам. — Как тэбя завут? — пацікавіўся, ледзь вусач сеў за руль і рвануў з месца.

— Каця! — гулліва зманіла Клара.

— А мэня — Тэнгіз, а его, — ткнуў у спіну таварыша, — Рэваз. Мы — з Кафказа.

— Бачу, не сляпая! — рагатнула прасцячка.

Балбочачы, Тэнгіз пасунуўся цясней і быццам бы ненарокам паклаў на Кларына аголенае круглае калена валасатую пяцярню. Клара тузанулася, памкнулася адмежавацца, аднак апамяталася, устрымалася і, як вопытная спакусніца, блазліва выскалілася. Юрлівец імгненна ачмурэў і аблапіў яе.

— Рэваз, врэма б нам перэкусыт, — неўзабаве неяк здушана прахрыпеў і спытаў у Клары: — Ты, Катэнка, не жэлаешь?

— Не супраць. Можна! — адказала Клара.

Праз вярсту-паўтары Рэваз высачыў пакаты спуск, збочыў з асфальту, завіляў замуравелай сцяжынкай, затым крута звярнуў, пакіраваў калдобістай мяжой міма каласістага жыта і непралазных хмызоў; па палявых раманах, па касцяру праехаў трохі і запыніўся.

Весела, як добра знаёмыя, апусціліся ва ўтульным цяньку танклявай, абвітай да вяршаліны пышным шышкаватым хмелем алешыны. Рэй павёў Тэнгіз. Не забэрсваючы язык, разгарнуў плітку шакаладу, адкаркаваў каньяк і набулькаў тры ёмістыя кволыя пластмасавыя стопкі.

— Прашу! — галантна працягнуў адну Клары і зухавата ўсклікнуў: — Будэм!

Дзяўчына не куражылася. Ахвотна чокнулася, без прынукі асушыла пасудак і войкнула, папярхнулася, хапнула разлузганую Рэвазам звабную бананавую кацелку.

Не дамаўляючыся, кампаньёны ажыўлена загаманілі, загулі. Клара расхрабрылася, расслабілася і, хоць цяміла гэта, рабіла і гаварыла зусім не тое, што было ёй уласціва: задзірыста смяялася, узвісквала, нават закурыла, пыхнула дымам, але закашлялася і шпурнула цыгарэту.

— Давай, Катэнка, лутшэ вып'ем! — прапанаваў Тэнгіз і, не чакаючы згоды, напоўніў толькі дваім. — Рэвазу болшэ нэлза, — патлумачыў. — Рэваз — за баранкай.

Пасля другой чаркі Клара раптоўна абмякла. Жылы яе набрынялі млявай стомай.

Чамусь спахмурнеў, унурыўся і, натужна сапучы, узняўся Рэваз.

— Я машыну пасматру... я — сэйчас... — буркнуў ён.

Яшчэ шалахаліся за ім альховыя галіны, а Тэнгіз ужо няўрымсліва згроб Клару, падкамечыў падыспад, зашнарыў па клубах, захакаў паўз скроню. Задыхаючыся пад ягоным цяжарам, перадольваючы боль, яна папракнула сябе: эх, шкада, загадзя не намякнула пра таксу! Ды тут жа суцешліва падумала: ладна, потым... потым скажу! Затуманенымі вачыма яна мелькам абмацала бухматыя булахоўкі хмелю ўгары і пакутліва змружыла вейкі.

Не маючы сілы ні праранiць слова, ні зварухнуцца, яна адчувала, як адразу ж за Тэнгізам гэтак жа люта мяў, курчыў яе Рэваз, як трохі пазней, здаецца, ужо ўдвух, Тэнгіз і Рэваз глуміліся над ёй.

Ачомалася суцемкамі ад вечаровай свежасці, ад воглай расы. Ляжала яна прыкрытая дзеля прыліку знушчанай спаднічкай усё пад той жа алешынай. Воблiз жудліва блішчала пустая каньячная бутэлька і бялела бананавае лупінне.

Захліпаючыся ці то ад дрыжыкаў, ці то ад плачу, Клара ўкленчыла, пакволілася ўстаць, каб апрануцца, але страшная ламота праняла цела, пякотная рэзь апаліла ніз жывата, і яна са стогнам рухнула на зямлю.

## НЯНАВІСЦЬ

— Малады чалавек, а малады чалавек! Ай-яй! І не сорамна вам? Куды прэце?

— Куды і ўсе — у аўтобус.

— Уважце старых! Дазвольце мне зайсці.

— Вушлы, баця! Вас прапусці, а сам адзінаццатым нумарам шуруй? Не, пардон!

— Я ж хворы, інвалід я.

— Дужа многа такіх зараз. Праходу ўжо няма. Паўсюль першымі шчэміцеся.

— Нам палажана.

— Чаму ж гэта?

— У нас ільготы.

— Далі вам волю.

— У нас правы.

— А нашы дзе?

— Заслужыце. Мы дзеля вас ні здароўя, ні жыцця не шкадавалі.

— Дзякуй! Яно і бачна — ашчаслівілі!

— Мы ваявалі.

— Хто?

— Я.

— У Ташкенце кроў мяшкамі праліваў ці ў паліцыі курэй за горла цапаў? Сапраўдныя франтавікі даўно зямлю параць. Тут яшчэ разабрацца трэба. Вунь ражка — хоць прыкурвай!

— У мяне цэлыя грудзі ордэнаў... медалёў!

— Знайшоў чым хваліцца! У каго іх няма?

— У цябе.

— Адкуль ведаеш? Я — афганец.

— У мяне... у мяне — граматы галоўнакамандуючага, самога Іофіса Вісарыёнавіча Сталіна! А ты... ты, смаркач, зневажаеш заслужанага чалавека! Ды я табе морду растаўку!

— Паспрабуй, казёл лысы! Урэжу раз — ласты склеіш!

— Іншага ад такога і чакаць нельга! Паслухайце, людцы, што сказаў гэты галаварэз! Ну і дзеткі, ну і дзеткі!

*(Працяг на стар. 12)*

ЛіМ ЧАСАПІС

## *Восень, Набокаў і музыка*

**Сціпла прылічваючы сябе да сапраўдных знаўцаў і аматараў сучаснай музыкі, а таксама і да кампазітараў, дзякуючы якім яна з'яўляецца на свет, я вельмі ўважліва сачу за дзейнасцю ансамбля салістаў "Класік-Авангард", чые канцэрты ўжо даўно сталіся для мяне самымі жаданымі.**

**Большасць новых твораў можна пачуць толькі ў выкананні гэтага калектыву. Зрэшты, для яго часцяком пішуць музыку спецыяльна, і таму амаль кожная прэм'ера — гэта не толькі першае выкананне на сцэне, а яшчэ і нараджэнне твора, яго матэрыялізацыя, увасабленне выканаўцамі аўтарскіх ідэй і музычных вобразаў. Наколькі я ведаю, мастацкі кіраўнік ансамбля Уладзімір Байдаў вельмі ашчадліва ставіцца да музычнага тэксту і патрабуе дакладнага выканання аўтарскіх заўваг. Дзякуючы гэтаму інтэрпрэтацыя твора часцей за ўсё цалкам адпавядае кампазітарскай задуме.**

**Той вечар падараваў слухачам адразу дзве прэм'еры. Першая з іх — маленькая фантазія для камернага ансамбля "Дзень на пачатку лістапада" Галіны Гарэлавай з эпіграфам Басё, японскага паэта 17 стагоддзя: "Вось і восень прыйшла", — шапнуў мне ласкавы вецер, дакрануўшыся да падушкі маёй".**

**Мяккі і пяшчотны твор — так выказваць свае думкі і пачуцці можа толькі жанчына. Майстэрствам гукапісу ў наш час авангарда і постэкспрэсіянізма валодае далёка не кожны. Аўтару трэба перадаць гукі жывой прыроды менавіта сродкамі музычнай выразнасці, зрабіць іх найбольш набліжанымі да арыгінала, і пры гэтым захаваць індывідуальнасць тэмбраў, іх колеравую непаўторнасць. Сустракаючыся з творамі такога кшталту, я цалкам прысвячаю сябе слуханню Музыкі — у гэты час мяне не цікавіць тэхніка ці драматургічныя канцэпцыі: толькі гукі, гарманічныя спалучэнні, меладычныя лініі, толькі вобразы — мары і ўспаміны — уладараць у маёй душы. Сузіранне жыцця, нават медытатыўнасць, узнікненне з нічога, з-за далёкага небасхіла, і знікненне ў нікуды, — прыкладна так мы ставімся да сваіх сноў: прачнуўшыся, спрабуем успомніць іх сутнасць, прыслухоўваемся да сваіх адчуванняў, асабліва, калі яны прыемныя. І даволі часта ўсведамляем, што хацелася б убачыць гэты сон яшчэ раз, паспрабаваць вярнуць той час ізноў, каб паспець запытацца ў сябе пра ўсё, што мае значэнне ці асаблівую каштоўнасць, прайсці своеасаблівы абрад ачышчэння — перад уласнай душой, перад жыццём і сумленнем.**

**Як жа добра трэба ведаць і ўяўляць сабе існасць душы наогул, каб, аналізуючы асаблівасці сваёй, прымусіць слухача зазірнуць ва ўласную! Дзякуючы гэтаму твору, які я ўспрыняў як аўтарскую споведзь, зрабіліся зразумелымі некаторыя праблемы, што даўно займалі мой розум і ўвесь час пра сябе нагадвалі. Цяпер яны далёка, дзесьці за небасхілам...**

**Другая прэм'ера — новы твор Вячаслава Кузняцова — гукавое ўвасабленне фрагментаў рамана Уладзіміра Набокава "Запрашэнне на кару". У адрозненне ад папярэдняга, гэты твор — цалкам праграмны, таму слухаць яго было значна лягчэй: успрымаць новы твор, наперад ведаючы яго "сюжэт" да таго ж і асабліва цікава. Так ці іначай, задаешся пытаннем: у якой ступені аўтару ўдаўся твор, які можна лічыць адпаведным асноўным сюжэтным лініям першакрыніцы. Скажу адразу: аналізаваць яго з традыцыйнага пункту гледжання нельга — гэта зусім новы твор.**

**Якія менавіта фрагменты рамана леглі ў яго аснову, пасля першага праслухоўвання сказаць адназначна нельга. Мабыць, асноўную ролю тут выконвалі вобразы: тупы і сыты натоўп, што ўладарыць над грамадствам і асуджае на знішчэнне ўсіх тых, хто непадобны на яго, ды Цынцынат Ц., дзівак, які парушыў спакой ды пахіснуў сістэму. Набокаў ставіцца да натоўпу ў вышэйшай ступені пагардліва, супрацьпастаўляючы яму сваіх герояў, — так ён выказвае свой пратэст, але добра разумее, што яны асуджаныя яшчэ з моманту свайго нараджэння, бо сістэма не даруе ім, нават і не прыслухаецца да іх, не паспрабуе хаця б зразумець, чаму з'яўляюцца на свет іншыя, не падобныя да ўсіх, людзі? Лягчэй за ўсе знішчыць выпадкова ўзнікшую перашкоду і супакоіцца. Што ў рамане і адбылося.**

**Тры тыдні чакаў галоўны герой таго моманту, калі кат месье П'ер запросіць яго на кару. Разгублены герой не мог зразумець, што рок насоўваецца на яго хутка і няўмольна і што нічога нельга змяніць. Гэтым тром тыдням адпавядаюць тры музычна-драматургічныя хвалі, якія мэтанакіравана рухаюцца да моманту самой кары. Кампазітар вельмі дакладна перадаў тыя думкі і адчуванні, што перапаўнялі галоўнага героя, тое галёканне натоўпу, што прыбег на Цікавую плошчу па чарговую забаву, і тую чысціню душы Цынцыната, які ў самы страшны кульмінацыйны момант свайго жыцця ўзнёсся ў сваёй непаўторнай індывідуальнасці так высока, што нават перастаў адчуваць з рэчаіснасцю ўсялякую сувязь...**

**Георгій САСНОЎСКІ**

# Жывы гук — жывы!

## ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ ФЕСТЫВАЛЬ ЭСТРАДНЫХ АРКЕСТРАЎ

А цікава: ці маглі б сабе ўявіць чытачы гадкоў 60 таму, ды і пазней, што міне час, і... І карэспандэнт "ЛіМа", пераступіўшы парог клубнай установы аднаго суровага ведамства і ледзьве не сутыкнуўшыся з прыгожай (бронзавай?) фігурай "жалезнага Фелікса", паспяшае на забаўлівыя жывыя гукі — гэткую выбуховую сумесь бэндавага свінга, свавольных сола, пякучых воплескаў? Хто ж са старэйшых не памятае: "Сегодня он играет джаз, а завтра..."

Як усё ж такі жыццё мяняецца!

І заўтрашні дзень ужо, здаецца, не абяцае нічога пагрозлівага для нашых джазменаў. Толькі творчую перспектыву, радасць новых сустрэч з публікай ды фестывальных стасункаў з калегамі. Урэшце, усё гэта мелі яны ўжо сёлета — дзякуючы музычнаму фэсту, які прыдумаў маэстра Міхал Фінберг, падтрымала Міністэрства культуры, а зладкаваць дапамагалі музыканты і адміністрацыйна-пастановачная група Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, дырэктар фестывалю, наш вядомы джазавы лаўрэат Аркадзь Эскін, гукарэжысёры Уладзімір Пазняк ды Алег Хромаў, мастак-сцэнограф Галіна Холад, вядучы праграм Дзмітрый Падбярэзскі.

Дарэчы, ён, вядучы, прыгадаў, як гадоў дзесяць таму намаганнямі камсамола ды нованароджанага Музычнага таварыства ўдалося ўпершыню сабраць разам джазавыя калектывы рэспублікі — на "Віцебскай восені". Тады іх было восем. Цяпер на падтрыманую дзяржавай сталічную імпрэзу сышліся-з'ехаліся разнастыя аркестры, ансамблі, якіх аказалася больш за дваццаць.

Інструменталісты і не толькі (давялося пачуць і джазавы вакал). Духавікі ды клавішнікі. Салісты з ладным стажам і амаль пачаткоўцы. Прафесіяналы класныя і не надта... Доўга можна разважаць пра тое, што ды як яны гралі, чым розніліся. Разважаючы, можна і паспрачацца. Пра густы, напрыклад. А вось калі адкінуць усё спрэчнае, дык можна вылучыць, бадай, адну абсалютную рэч, якая паяднала досыць стракатую фестывальную грамаду.

Гэта — **жывое** гучанне!

Фестывальная сцэна ўспрымалася чарадзейнаю выспай, на якой **жыве жывы гук** — даўні выгнаннік шоу-бізнесу, адвечны апазіцыянер камерцыйных эстрадных канцэртаў. І падзівіцца на гэтую выспу можна было нават неплацежаздольнаму студэнту: да каго "не дайшлі" запрашальныя білеты, маглі атрымаць іх проста... ля ўвахода. (Тым часам ёсць ахвотнікі ці не паўмільёна адшкадаваць — як тут выказацца больш дыпламатычна? — за амартызацыю "фанеры" нібыта валютных зорак-гастралёраў).

Жывы гук — гэта значыць няма гарантыі, што музыкант не памыліцца і публіка не пачуе фальшывую інтанацыю.

Але жывы гук — гэта гарантыя таго, што музыкант шчыры перад публікай, нават у сваіх памылках. Даруюцца хібы тэхнічныя, калі ёсць нефальшывае пачуццё.

Таму й не шкадавала перапоўненая зала ні эмоцый, ні далоняў — святочна, цёпла было ўсім. Канцэртнаму аркестру эстраднай музыкі з маэстра Мікалаем Сталяровым ды Юрыем Адзінцовым, трамбаністам Юрыем Дзегцяровым ды саксафаністам Дзмітрыем Бандарэнкам (Гомель). Магілёўскаму "Імпульсу" з унікальным вібрафаністам (а такса-



*"Полацк-аніма-квартэт".*

ТЭАТР

# Дыягназ — эгакласіцыст

***Прэса ды крытыка паставілі Дзмітрыя ЛАЗОРКУ на чале ўкраінскага тэатральнага авангарду. Маладога — духам, жаданнем, запатрабаваннямі. Лазорку любіць знаны мэтр Мітніцкі, вывучыўшы яго перадусім на сваім курсе ў вядомай мастацкай установе імя Карпенкі-Карага. "Проста любіць", — удакладняе Дзмітрый. Гэта значыць, апякуецца і падтрымлівае як бацька, дазваляе ставіць усё. Пытанне ў тым, ці ж пытае Дзмітрый дазволу...***

"Славянскія тэатральныя сустрэчы" ў сёлетнім траўні Дзмітрый Лазорка скалануў, задаўшы фестывалю... пытлю. Ягоны спектакль "Дзень кахання, дзень свабоды" паводле Клаўса так узняў планку прафесійных намаганняў й магчымасцяў спадароў рэжысёраў, што "...сустрэчы" забыліся і на славянства, і на сяброўскія міжсабоі ў кулуарах. "Гэты спектакль робіць гонар фестывалю", — недвухсэнсоўна мовіла Вольга Скорачкіна, вядомая дакладнасцю й трапнасцю сваіх ацэнак не толькі ў родным Санкт-Пецярбурзе. Наталля Ермакова, украінскі крытык, кіеўская "мамка" Дзмітрыя ў Маладым тэатры на Праразной, сёлета глядзела "Дзень кахання..." дзевятнаццаць разоў і кожны раз неверагодна перажывала: спектакль, паводле Дзмітрыя, патрапіў змяніць, перайначыць спадароў акцёраў, а потым ён, рэжысёр, адчуў, як мяняецца сам...

Гісторыя шарговага інцэсту была распаведзена рэжысёрам як гісторыя кахання. Якое не выбірае. Там, дзе тэкст з акцёрскіх вуснаў мог спляжыць атмасферу гэтага трывожнага і незразумелага кахання, акцёры пераходзілі на мову жэстаў, на мову пластыкі. Дзіўныя танцы таньчыліся на пляцовачцы, засыпанай спелымі яблыкамі; час-почас якіясь з пладоў трапляў пад жаночы абцас і пырскаў натуральным сокам. Мужчыны ў гэтым спектаклі кахалі, як апошні раз у жыцці. Далікатна напінаўліся повязі паразумення (сямейнікі падсвядома трымаліся адзін пры адным — маці; бацька, які адбыў тэрмін за грэбаванне агульнапрынятай маральнай нормай, за парушэнне табу, якое стагоддзі чалавечай гісторыі толькі мацавалі; дачка, якая ў кожным новым каханку шукае бацьку). Водгулле старажытных трагедый дачувалася ў дыялогах персанажаў, ды так, што яны пераходзілі да сапраўднага гекзаметра (воляй адмыслоўцы-перакладчыка). Персанажаў не пераследаваў рок, не ратавалі багі з машын, не джгалі мсціўкі-эрыніі. Хапала кахання, якое жорстка выпрабоўвала людзей на трывушчасць. Вывярала супраціўленне матэрыялу. Круціла, біла, цвяліла, пляжыла, знішчала, давала выспятка, збівала на горкі яблык... З-пад мужчынскіх чаравікаў пататптаныя яблыкі разляталіся брудам. "Гваздзікі" Піны Бауш ставалі эстэтычным рэхам "Дня кахання...". Каханне падымала на ногі спакутаваных людзей. Трывалае ўяўленне аб прыстойнасці не пазбаўляла забароненых пладоў смаку: напраў-



## Родам са школы...

**Таццяне ГАРЭЛІКАВАЙ — 50**

**Родам Таццяна Іванаўна з вёскі Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Пасля сканчэння мясцовай сярэдняй школы ў 1964 годзе паступіла на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Дыплом аб вышэйшай адукацыі атрымала завочна ў 1970 годзе — з 1968 года працавала бібліятэкарам у Мінску, а з 1972-га — старшай піянерважатай, арганізатарам пазакласнай і пазашкольнай выхаваўчай работы Трасцянецкай сярэдняй школы. У 1976 годзе Т. Гарэлікава была прызначана дырэктарам Ракуцевіцкай сярэдняй школы, у 1978-м — інспектарам Мінскага раёна. З 1979 года працавала намеснікам загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі, з 1980-га — сакратаром Мінскага райкома КПБ. З 1985 года з'яўлялася рэдактарам аддзела часопіса "Полымя".**

**Першае апавяданне Т. Гарэлікава надрукавала яшчэ школьніцай — у 1962 годзе ў газеце "Піянер Беларусі". Выступала ў рэспубліканскай перыёдыцы. Аўтар кніг прозы "Дзе лес шуміць" і "Пры святле расстанняў".**

**З поўднем веку, шаноўная Таццяна Іванаўна! Поспехаў Вам у жыцці і творчасці!**

## Юбілей сябра

**У полі зроку вядомага рускага крытыка, літаратуразнаўцы, доктара філалагічных навук Анатоля Бачарова і беларуская літаратура. Пачынаючы з 1959 года, калі ён выступіў у перыядычным друку з першымі публікацыямі, Анатоль Георгіевіч асноўную ўвагу ўдзяляе тэме вайны ў літаратуры, што, у прыватнасці, засведчылі такія яго артыкулы, як "Логіка гісторыі і логіка мастацтва", "Праз прызму поліканфліктнасці", "Па законах нялёгкага веку", у якіх гаворка ідзе і пра творы беларускіх пісьменнікаў. У "Литературной газете" і часопісе "Дружба народов" А. Бачароў выступаў з рэцэнзіямі на кнігі І. Мележа, В. Быкава, А. Зарыцкага, Н. Пашкевіча, А. Бялевіча і іншых. Беларуская тэматыка гучыць і на старонках кніг А. Бачарова "Патрабавальная любоў. Канцэпцыя асобы ў сучаснай савецкай прозе", "Чалавек і вайна. Ідэі сацыялістычнага гуманізму ў пасляваеннай прозе аб вайне".**

**Анатолю Георгіевічу Бачарову споўнілася 75 гадоў.**

## Дзесяцігоддзе музея



**Сотні каштоўных экспанатаў — унікальных ікон, першадрукаваных і пісаных ад рукі старадаўніх кніг, прадметаў побыту стараабрадцаў — выстаўлены ў Веткаўскім музеі народнай творчасці, якому спаўняецца дзесяць гадоў.**

**На здымку: ткацкі стан, на якім вырабляліся славутыя неглюбскія ручнікі, аднавіў загадчык рэстаўрацыйнымі майстэрнямі Анатоль Чэмезаў.**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## Па роднай зямлі

**У кнігу Віталя Вольскага "Падарожжа па краіне беларусаў", выпушчаную выдавецтвам "Юнацтва" ў серыі "Школьная бібліятэка" увайшлі яго творы, што знаёмяць з багатай гісторыяй нашай краіны. Апублікавана дакументальна-мастацкая аповесць "У лясах над Бярозай" і ўрывак з кнігі "Падарожжа па краіне беларусаў" пад назвай "Па дарогах Палесся". Дарэчы, гэтая кніга В. Вольскага ў нечым закранае аспекты, што пазней больш шырока прагучалі ў знакамітым нарысе "Зямля пад белымі крыламі" Уладзіміра Караткевіча.**

ПАЭЗІЯ

## Алесь ЛІСІЦКІ



# "Светлых пачуццяў мальба"

●

*Хто пра былое не згадваў,*
*згледзеўшы след сівізны?*
*Хіба ж забудзецца радасць*
*тое далёкай вясны?*

*Хто пра былое не згадваў,*
*ноччу не маючы сну?*
*Даўняй пяшчоты пагляды*
*нашым вачам не вярнуць.*

*Хто пра былое не згадваў?..*
*Раптам пад сэрцам кальне:*
*Вам не даруецца здрада...*
*Што не даруецца — мне?*

*Хто пра былое не згадваў,*
*чуючы крык жураўля?..*
*Хай і пакрыўджаны, рад Вам*
*быў і заўжды буду я!*

●

*Што важна, а што і не важна*
*да самага суднага дня?*
*Цяпер разумею: мне Ваша*
*за ўсё даражэй цеплыня.*

*На холадзе рукі калелі,*
*я іх апякаў ля агню.*
*Але астудзіць не здалелі*
*гады Вашы рук цеплыню.*

*Далічвае век мой патроху*
*гады свае, месяцы, дні.*
*Хапае ўсяго мне, яй-богу,*
*найбольш — Вашых рук цеплыні.*

*Паплакаць — не проста ў адведкі —*
*ля свежай магілы маёй*
*Вы прыйдзеце, з рук Вашых кветкі*
*сагрэюць мой прах цеплынёй!*

●

*А можа, высніў вобраз Ваш*
*я на зары свайго юнацтва,*
*як прывід нейкі ці мірваж?*
*Мне хіба ў ім расчаравацца?*

*Як нізка ластаўка ляціць...*
*О, вось і дождж ужо цярушыць.*
*Слязой маёю Вам свяціць,*
*а не расою*
*будуць ружы.*

●

*Пасцеле восень на Палессі*
*з лістоў кілімы*
*і травы.*
*І можа здарыцца, што дзесьці*
*мяне згадаеце зноў Вы.*

*Не знаю, хто — шпакі ці ластаўкі,*
*а можа, нават жураўы,*
*Вам нагадаюць: быў я ласкавы,*
*і замаркоціцеся Вы.*

*І будзеце таемна пошты*
*чакаць і думаць, ці жывы*
*я, і дакараць сябе: "Навошта*
*ён не выходзіць з галавы?!"*

●

*З Вамі мне больш не сустрэцца.*
*Гэта — мой сум і журба.*
*Сэрцу хоць зрэдку сагрэцца*
*ў одуме толькі хіба.*

*Хай анідзе не кранецца*
*Здрада Вас альбо кляцьба.*
*Сэрцу хоць зрэдку сагрэцца*
*толькі ў мінулым хіба.*

*Лёс мой нялёгка снуецца —*
*позніцца ўдачы сяўба.*
*Сэрцу хоць зрэдку сагрэцца*
*у прыпамінах хіба.*

*Песня, што сёння ліецца, —*
*светлых пачуццяў мальба.*
*Душам расстайным сустрэцца*
*зноўку на небе хіба!*

г. Петрыкаў

ПОШТА

# Час нашай ідэі надышоў

Газету "ЛіМ" чытаю даўно (цяпер атрымліваю яе дзякуючы Беларускай нацыянальнай бібліятэцы, за што ёй вельмі ўдзячны). Газета і ейны працавіты калектыў памагае мне разумець сутнасць цяперашняга крызісу беларускае культуры й мовы.

Акіян расейшчыны захлынуў усе плыні й галіны гаспадаркі, навукі, культуры, творчасці. Беларуская мова, калі ў абарону яе будуць выступаць, — як дагэтуль, — адно толькі асветчаннямі й дэкларацыямі, у недалёкай будучыні адыдзе ў нябыт.

Мяне зацікавілі артыкулы, змешчаныя ў газеце 29-га сёлетняга жніўня: "Захаванне мовы — сёння палітычнае пытанне" (інтэрв'ю з Вольгай Іпатавай) і "Трагедыйны звон па беларускай кнізе" ("круглы стол" у выдавецтве "Мастацкая літаратура").

Як жа і хто павінен бараніць дзяржаўную мову Рэспублікі Беларусь? Маецца на ўвазе практычнае дзеянне, штодзённае і дальнабачнае, дзе вымагаецца дысцыпліна, вытрываласць, планаванне і адвага, супрацьстаянне з тымі, што "харчуюцца" нянавісцю да беларускага нацыянальнага й культурнага адраджэння, гатовы адбудоўваць "імперыю зла", знішчыць незалежнасць Рэспублікі Беларусь ды аддаць яе ў вечнае ярмо тых, што прыйшлі й прыходзяць заўсёды "от лукаво-го".

Артыкул 17 Канстытуцыі, прынятай у 1994 годзе, гаворыць: "Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова. Рэспубліка Беларусь забяспечвае права свабоднага карыстання рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін". Значыць, трэба абараняць дзяржаўную мову, змагацца за яе выжыванне, практычнае штодзённае карыстанне ўсімі, у тым ліку й найперш — уладамі дзяржавы.

Як змагацца? Прыклад: вас за нешта абвінавацілі й пацягнулі ў суд. Ага! Небяспека для роднай мовы і вас асабіста. Ёсць жа нагода карыстацца дзяржаўнай мовай, прытым у такой высокай дзяржаўнай установе, як суд. Калі ён, суд, карыстаецца мовай "міжнацыянальных зносін", а вы жадаеце бараніць сваю родную-дзяржаўную, патрабуйце перакладчыка!

Гэта нялёгка! Гвалтаўнікі ўсіх вашых чалавечых правоў і ворагі беларушчыны, што прыйшлі "от лукавого" й адбудоўваюць "імперыю зла", зробяць усё, каб вас загнаць у патрэбную ім зону. Але ж — куды вам адступаць? І тут славутая беларуская талерантнасць вам адно пашкодзіць!

Прыгадваецца вядомая, не памятаю кім спачатку выказаная аксіёма: "Няма больш магутнай сілы, чым ідэя, час якой надышоў!"

Ідэя — абарона беларускай дзяржаўнай мовы ўва ўсіх галінах жыцця Беларускай Дзяржавы, яе незалежнасці, будучыні нашага шматпакутнага народа. Памажы нам, Божа!

Жадаю вам усім як найбольшых поспехаў у працы, змаганні й добрага здароўя!

Жыве Беларусь!

**Кастусь АКУЛА**

*Таронта, Канада*

# ШРАМЫ НА СЭРЦЫ

*(Працяг. Пачатак на стар. 8—9)*

### ВЫБАРЫ

Хоць і нямнога пацюкала на дрывотні сякерай, а знемаглася, аж у грудзях запякло, ледзь да ложка даклыпала.

Не паспела прылегчы — у сенцах затупалі, ляснулі клямкай.

— Дзень добры! Ці ёсць жывая душа ў хаце? — прагучаў на парозе мужчынскі бас.

— Ё, ё, — рыпнула спружынамі матраца. — Ты, Савачка?

— Абазналася, Захараўна. Я — заатэхнік. Войцік я.

— То праходзь, дзетка. Устану вось.

— Захварэла ніяк?

— Не, стамілася дужа.

Старая спаўзла далоў і выткнулася з-за шырмы.

— Дык вы не адзін! — заўважыла побач маладзенькую танклявую дзяўчыну.

— Настаўніца Людміла Кірылаўна са мной, — пасміхнуўся мажны Войцік.

— Мы — з выбарчага ўчастка, — паспяшалася абвясціць напарніца з чырвонай скрыначкай.

— Ці чула ты, цётка, пра рэферэндум? — той жа момант пацікавіўся Войцік.

— Пра каго, каго?

— Пра рэ-фе-рэн-дум.

— Здаецца, гаварыў нешта Савачка, але ў маё правае вуха ўляцела, а ў левае вылецела.

— Гэта, Захараўна, кампанія па волевыяўленні народных жаданняў. Зразумела?

— Адкуль мне ведаць? Газет я не выпісваю, бо дрэнна бачу, каб чытаць, тэлевізара не купіла пакуль, а радыё унь ад зімы захліпнулася, маўчыць. Прасіла манцёра Куксянка — падчапі дрот, дык не выкраіў часу Куксянок. Я ж бы яму бутэльку віна паставіла...

Перапыняючы гаспадыню, умяшалася Людміла Кірылаўна:

— Мы бюлетэнь вам прывезлі. Вы павінны адказаць на некалькі пытанняў.

— Не, не! — узмалілася бабка. — Даруйце! Іншая справа раней: аддаў голас — і будзь здаровенькі. А тутка... Збаўце!

— Дарэмна млееш, Захараўна, — паўшчуваў заатэхнік. — Зараз куды прасцей. Дэмакратыя зараз.

Людміла Кірылаўна зноў цярпліва ўзялася тлумачыць, суцяшаць:

— Паверце, нічога страшнага няма. Наце ручку і выкрасліце непрымальнае для вас. Мы адвернемся.

— Баюся... баюся! Крый Бог — не тое чырыкну! Падвучылі б.

— Не маем права, — пахітала кучаравай галавой дзяўчына. — Самі глядзіце.

— Невідушчая я... сляпая! — па запалых, пашрамаваных глыбокімі раўчукамі шчоках старой пакаціліся слёзы. — Зрабіце ўсё без мяне.

Войцік гульнуў жаўлакамі і, ці то апрыкрала слухаць енк, ці, пэўна, злітасціўся, выхапіў у настаўніцы храбусткую паперчыну.

— Ладна. Услужу табе, Захараўна, — схіліўся над сталом.

Праз хвіліну ён разагнуўся, склаў папалам лісток і саўгануў у вузкую шчыліну плоскай, з сургучнай пячаткай, скрыначкі.

— Цяпер спі спакойна.

— Дзякуй... дзякуй! — акрыяла старая.

— Эх, маці, маці! — развітваючыся, наяршыў Войцік бровы. — Вось і дабіся з такімі даброт нейкіх.

— А я, сынок, і не хачу іх, — памкнулася кабета праводзіць гасцей. — Нам бы толькі пенсію не затрымлівалі. Толькі б аўталаўка з хлебам прыязджала да нас, бо далёка шлындаць у Кругі, ды няхай бы калонку адрамантавалі, а то калодзеж забурыўся, дык ваду цягаем ад Піліпавага двара...

Бабка мецілася яшчэ штосьці сказаць, аднак Войцік зачыніў за сабою дзверы, і яна папярхнулася.

*Ці не самае складанае ў выхаванні дзіцяці — раскрыць і зберагчы ягоную індывідуальнасць. У свой час я з прыкрасцю заўважыла, што тыя, каго вучылі пісаць па новых, не такіх, як у нас, разлічаных выключна на шарыкавыя ручкі, прапісях, нават у дарослым узросце рэдка набывалі свой адметны почырк. Думала, што вінаватыя ў тым занадта стандартызаваныя прапісі. Але ж не толькі, а можа, і не столькі яны... Вучаць пісаць не прапісі, а настаўнік. І вось трапілі да мяне дзве запіскі, якія напісалі зусім маладыя жанчыны, у свой час выпускніцы, а цяпер выкладчыцы таго самага Рэспубліканскага каледжа мастацтваў (адна выкладае музыку, другая вядзе малодшыя класы). Адкуль у іх такі прыгожы, не падобны на тое, як пішуць іхнія аднагодкі, почырк? Цікава, хто вучыў іх пісаць? І адна, і другая ў розныя гады вучыліся ў Людмілы Мікалаеўны ШАХАВАЙ, якая шмат гадоў была настаўніцай малодшых класаў, потым намеснікам дырэктара, цяпер вось стала дырэктарам Рэспубліканскага каледжа мастацтваў... І мне захацелася пагаварыць з ёю не столькі з нагоды юбілею адной з самых шаноўных у рэспубліцы навучальных устаноў, колькі дзеля таго, каб паспрабаваць зразумець, як можна і трэба выхоўваць у наш час асобу, ды не проста асобу, а талент.*

# Таямніца адметнага почырку

## ГУТАРКА З ДЫРЭКТАРАМ РЭСПУБЛІКАНСКАГА КАЛЕДЖА МАСТАЦТВАЎ ЛЮДМІЛАЙ ШАХАВАЙ З НАГОДЫ 35-ГОДДЗЯ КАЛЕДЖА І НЕ ТОЛЬКІ...

**— Шаноўная Людміла Мікалаеўна, дазвольце звярнуцца да вас не як да дырэктара, а як да вопытнага педагога. Вы столькі гадоў працуеце з адоранымі дзецьмі. Ёсць нешта, што яднае ўсіх выпускнікоў Рэспубліканскага каледжа мастацтваў (раней Рэспубліканскай школы-інтэрната, потым Беларускага ліцэя мастацтваў), цяпер вядомых далёка за межамі нашай краіны мастакоў Фелікса і Валерыя Янушкевічаў, Уладзіміра Савіча, Вольгу Дзёмкіну, Рыгора Сітніцу, музыкантаў Ігара Сацэвіча, Сяргея Асташонка, Вольгу Сідаровіч, Вадзіма Гацко. І гэта не толькі і не столькі высокі прафесіяналізм, але і, я б сказала, проста неабходная сёння ў мастацтве трываласць асобы. Хоць у наш стандартызаваны час вельмі няпроста не тое што зберагчы, але нават разгледзець індывідуальнасць...**

— Перш-наперш трэба стварыць такія ўмовы, каб яна, гэтая індывідуальнасць сама магла выявіцца, раскрыцца. І тут у нашага каледжа ёсць цудоўныя традыцыі. Я часта задумваюся, што такое ўвогуле ёсць талент? Да нас прыходзяць дзеці з самых розных сем'яў, з глухіх вёсак і буйных гарадоў... Чаму Бог адарыў абсалютным слыхам ці здольнасцю гарманізаваць колеры менавіта гэтае дзіця? І як дапамагчы яму стаць асобай? Таленавітыя дзеці як правіла, вельмі ранімыя, узвышаныя натуры. Калі яны паступаюць да нас вучыцца, каледж робіцца іхнім другім домам. А настаўнікі, педагогі на час вучобы павінны замяніць ім бацькоў. Дзеці давяраюць нам, і мы мусім іх падтрымаць.

Да таленавітых дзяцей трэба ставіцца вельмі асцярожна. Ну што зробіш, калі будучы кампазітар не заўсёды на "выдатна" адказвае на ўроку матэматыкі... Зрэшты, мы нават спрабавалі ўвесці 10-бальную сістэму адзнакаў, каб не прыніжаць, а наадварот нейкім чынам узвышаць кожнага...

**— Вы вельмі хораша сказалі на прэзентацыі адной з апошніх выстаў (пра яе згадаем у канцы): "Тут, у нашым каледжы паўсюль царуе дабрыня"...**

— І творчасць...

**— Гэта, напэўна, датычыць не толькі вучняў, але найперш педагогаў? Наколькі ведаю, практычна ўсе яны яркія індывідуальнасці, асобы...**

— Мы набіраем выкладчыкаў на конкурснай аснове. Вельмі небяспечна ўзяць чалавека злоснага, які не любіць дзяцей, не валодае прафесійна сваім прадметам. Выдатна, калі да нас на працу прыходзяць нашыя былыя выпускнікі. Яны, як правіла, лепш разумеюць сваіх вучняў, умеюць працаваць творча. Нашы педагогі ведаюць, што павінны максімум даць на ўроку (вольнага часу ў нашых дзяцей вельмі мала — яны ці займаюцца музыкай, ці малююць). І каб не было перагрузак, выкладчыкі актыўна засвойваюць новыя тэхналогіі і методыкі. Практыкуюць і лекцыі, і дэльтапланы, і развіваючае навучанне. Што ж датычыць самастойнай працы, мы імкнёмся навучыць дзяцей, асабліва старшакласнікаў самастойна шукаць веды, і падыходзіць да гэтых пошукаў творча. Уводзім у расклад новыя прадметы, аўтарскія курсы — такія, як "Культура мовы", "Прыкладная эканоміка" і іншыя, шмат увагі надаём вывучэнню моваў. Як прыемна было прысутнічаць сёлета на выпускных экзаменах! Нашыя выпускнікі хораша гаворaць і па-беларуску, і па-руску, і па-англійску... Мы з Нацыянальным інстытутам адукацыі распрацоўваем новую праграму навучання і выхавання таленавітых дзяцей.

**— Ваша навучальная ўстанова ўяўляе сабою на сёння унікальную мадэль школы будучыні. Як гучыць яе новая поўная назва?**

— Беларускі рэспубліканскі вучэбны комплекс гімназія-каледж мастацтваў. І кожнае слова нясе пэўны сэнс. У нас, сапраўды заўсёды вучыліся і вучацца дзеці з усёй рэспублікі. З малодшых класаў ідзе ўзмоцненая (гімназічная) моўная падрыхтоўка. Варта тут нагадаць, што ў музычныя класы мы набіраем дзяцей з 7 гадоў, а выяўленчаму мастацтву пачынаем вучыць толькі з пятага класа. А вось пасля дзевятага класа ўжо і музыканты, і мастакі здаюць экзамены. Пры станоўчых адзнаках яны працягваюць вучыцца ўжо не ў гімназіі, а ў каледжы. Цяпер ужо не бацькі, а дзеці, дакладней, падлеткі самі свядома вырашаюць, кім ім быць. Вось, напрыклад, вучыцца ў нас хлопчык, які выключна ведае хімію. Пасля дзевятага класа ён мусіць вырашыць для сябе, будзе ён хімікам альбо музыкантам. Тут варта сказаць, што каб ніякім чынам не парушыць правы дзіцяці, мы імкнёмся даць кожнаму усебаковую адукацыю, каб дзеці маглі паспрабаваць сябе ў розных галінах дзейнасці... У распрацоўцы новых праграм нам вельмі дапамагае не толькі Нацыянальны інстытут адукацыі, але і Міністэрства адукацыі. Разам мы можам ставіць перад сабою і вырашаць вельмі складаныя задачы.

На музычным аддзяленні з нашымі старшакласнікамі працуюць прафесары з Беларускай акадэміі музыкі, што дазваляе навучэнцам цвяроза ацэньваць свае здольнасці і магчымасці паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Прыходзяць да нас на прагляды і выкладчыкі Беларускай акадэміі мастацтваў. Мы імкнёмся даць сапраўдным талентам, так бы мовіць, зялёнае святло, каб да мінімуму зменшыць траўмы на ўступных экзаменах. Дарэчы, з сёлетніх 24 выпускнікоў (у нас сёлета выпускаліся толькі музыканты), усе 24 паступілі ў ВНУ (15 — у нашу Акадэмію музыкі, адзін паехаў вучыцца ў Маскву, адзін паступіў у Беларускую акадэмію мастацтваў на акцёрскае аддзяленне), астатнія цяпер вучацца ва Універсітэце культуры і педагагічным універсітэце...

**— Такім чынам, дыферэнцыраванае навучанне дае свой плён... Пра гэта, калі не памыляюся, ішла гаворка і на І Рэспубліканскім з'ездзе настаўнікаў.**

— Вопыт работы навучальных устаноў новага тыпу (ліцэяў, гімназій) пацвердзіў, што толькі дыферэнцыраваны падыход дае магчымасць не толькі даць дзецям добрую адукацыю, але і максімальна развіць здольнасці кожнага.

**— Калі не сакрэт, а як вы адбіраеце дзяцей, здатных вучыцца на музычным ці мастацкім аддзяленні? На што перш за ўсё звяртаеце ўвагу?**

— Калі праходзіць субяседаванне, камісія, у складзе якой самыя вопытныя педагогі, мусіць правесці знешнюю дыферэнцыяцыю. Мы павінны беспамылкова разгледзець закладзены прыродай талент і адчуць, што дзіця можа і хоча працаваць. Жыццё пацвердзіла: нават з абсалютным слыхам без штодзённае працы, без сілы волі можна застацца вельмі пасрэдным вучнем, а потым нават зусім страціць дар божы. І хоць мы набіраем дзяцей на конкурснай аснове, першыя месяцы навучання можна лічыць адаптацыйнымі.



За дзецьмі назіраюць не толькі настаўнікі, выхавацелі, але і псіхолаг, медыкі. У канцы адаптацыйнага перыяду праводзім кансіліум, разважаем, хто як развіваецца ў прапанаваных намі ўмовах. Конкурсным можна лічыць увесь першы год навучання. І тут зноў жа галоўнае не столькі здольнасці, колькі працалюбства. Мы выпускаем не толькі выдатных выканаўцаў, але і педагогаў. І галоўнае, імкнёмся выхаваць з кожнага чалавека, асобу.

**— Наколькі я ведаю, не толькі ўрокі, але і так званае пазашкольнае жыццё ў каледжы арганізавана на сапраўды творчай аснове. Цікавыя канцэрты, конкурсы, праца гурткоў...**

— Дарэчы, і тут у нас выпрацаваны сістэмны падыход. Напрыклад, праграма "Вытокі" ставіць на мэце вывучэнне гісторыі Бацькаўшчыны, знаёмства з музеямі, сустрэчы з пісьменнікамі і паэтамі. Нашыя вучні — жаданыя госці ў сталічных тэатрах, таму што ўсе абмеркаванні спектакляў, якія мы наладжваем, гэта не проста гаворка, а прафесійная гаворка пра рэжысуру, мастацкае афармленне, музыку, акцёрскае майстэрства. У нас ёсць свая тэатральная студыя, студыя бальнага танца, фальклорны калектыў. А што ўжо казаць пра сапраўды высокапрафесійныя хор, аркестр народных інструментаў, духавы аркестр! Іх ведаюць далёка за межамі нашай краіны.

**— А калі да гэтага дадаць, што ў вас вучацца, бяруць удзел практычна ва ўсіх канцэртах такія выдатныя юныя выканаўцы, як флейтыстка Таня Кармазінава, піяністы Паўлік Кашчэва і лаўрэат Міжнародных конкурсаў Святлана Лагачова, якія мне даводзілася чуць, ваш каледж можна лічыць своеасаблівым культурным, духоўным цэнтрам. Але паназіраўшы за працаю вашых выкладчыкаў, я цяпер ведаю, што за кожнаю новаю музычнаю ці мастацкаю "зоркай" — вялікая, тытанічная праца педагогаў...**

— Кожны з якіх, нагадаем, асоба, талент. Дастаткова згадаць тут Таццяну Сергіеўскую, Наталлю Сярмяжку, Галіну Цітову, Валерыя Сароку, Таццяну Мазанаву, Кацярыну Цюрыну, Міхаіла Макаранку...

**— І нягледзячы на тое, што і вучацца, і працуюць у вас неардынарныя асобы, вы нейкім чынам зберагаеце вельмі цёплую, чалавечую атмасферу. Гэта адчуваецца і па тым, як прымаеце вучняў-першагодак, і як праводзіце на пенсію педагогаў. Мяне, напрыклад, да слёз расчуліў вальс, які станцаваў на сцэне з адною з вашых выкладчыц на развітанне ваш былы дырэктар Анатоль Філіповіч... Скажыце, шаноўная Людміла Мікалаеўна, а каб у вас у каледжы быў музей, ля якога б экспаната вы спыніліся?**

— Музея пакуль што яшчэ няма, але мы яго робім. Каб берагчы, шанаваць тое, што маеш сёння, трэба памятаць, што было некалькі гадоў, дзесяцігоддзяў таму назад, з чаго ўсё пачыналася... Мы сёння маем не толькі шмат унікальных фотаздымкаў, але і дзякуючы намесніку дырэктара па гаспадарчай частцы Пятру Стэльмаху відэазапісы апошніх выпускных вечароў. Так што ў музеі можна будзе спыніцца не толькі ля стэнаў, але і глядзець відэастужкі. Вучоба ў нашым каледжы будзе для ўсіх пачынацца з экскурсіі па музеі... Што ж датычыць экспанатаў, асабліва дарагіх для мяне, то... Справа ў тым, што, калі школа-інтэрнат для асабліва адораных дзяцей (а значыць і сённяшні наш каледж) толькі пачынаўся, у ім працавала мая мама — Лідзія Васільеўна Верамейчык. Я, можна лічыць, расла разам з інтэрнатам. Тут праходзіла я сваю педпрактыку... Добра памятаю і схіляю галаву перад педагогамі тых і крыху пазнейшых гадоў, нашымі ветэранамі — Валянцінай Васільеўнай Дзвурэчанскай, Людмілай Мікалаеўнай Кахновіч, Ядвігай Іосіфаўнай Арлоўскай, Ганнай Васільеўнай Бярозкінай... І яшчэ шмат каго пазнаю я на старых фотаздымках. Будзе ў экспазіцыі шмат фотаздымкаў маіх выпускнікоў. І тыя маладыя, юныя твары... Гэта ці не самыя дарагія, шчымлівыя мае ўспаміны... З самага пачатку, яшчэ з тых гадоў, калі інтэрнат размяшчаўся на Абутковай вуліцы, калі і там працавала мая мама, я засвоіла, што гэта не проста школа, а дом, дом цяпла, дабрыні, справядлівасці.. Раней дырэктар жыў тут, на тэрыторыі школы-інтэрната... Мне вельмі хочацца захаваць усе добрыя традыцыі, якія заклалі ў нашай навучальнай установе тыя, хто стаяў ля яе штурвала да мяне, — Марыя Масальская, Уладзімір Ратабыльскі, Анатоль Філіповіч... Мне хочацца, каб у нас было чыста, прыгожа, утульна, каб у нас і надалей панавала дабрыня... Вы не ўяўляеце, як гэта прыемна, калі вучні прыходзяць да цябе падзяліцца сваёй, хай сабе маленькаю радасцю, і як адказна, калі мусіш даць камусьці з іх сур'ёзную параду. Я радуюся, калі першакласнікі па дзесяць разоў на дзень пры сустрэчы кажуць "Добры дзень", калі прыбягаюць пахваліцца новаю забаўкай. Вось англічане пераслалі для адной з нашых вучаніц рэдкую скрыпку...

**— Наколькі я ведаю, ваш педагагічны, а можа, і жыццёвы прынцып — вельмі элегантная, строгая дабрыня... А скажыце, Людміла Мікалаеўна, калі вы былі вучаніцай, баяліся свайго дырэктара школы?**

— Ды не, не баялася... Я заканчвала 63 мінскую школу. І там у нас, у старэйшых класах была сапраўдная садружнасць настаўнікаў і вучняў. І сёння памятаю па імёнах амаль усіх сваіх настаўнікаў, памятаю, як мы ставілі спектаклі... Усё, усё памятаю...

**— Што ж, застаецца пажадаць, каб сённяшнія вашыя вучні таксама шмат чаго добрага маглі ўспомніць пра родны каледж і пра сваіх выкладчыкаў! Поспеху вам і натхнення! І са святам! Трыццаць пяць гадоў — самы росквіт.**

Мне шмат даводзілася сустракацца з выпускнікамі Рэспубліканскага каледжа мастацтваў. І тыя з іх, хто ўжо сказаў сваё яркае слова ў мастацтве, і тыя, хто яшчэ шукае сябе, сапраўды ўспамінаюць пра гэтую навучальную ўстанову, як пра родны дом і многія з былых выпускнікоў нават прыводзяць сюды вучыцца сваіх дзяцей.

Сёння, напярэдадні свайго 35-годдзя Рэспубліканскі каледж мастацтваў правёў шмат цікавых канцэртаў і выстаў, ён стаў адным з членаў Дзіцяча-юнацкай творчай асацыяцыі. На прэзентацыю дакументальна-мастацкай выставы, прысвечанай 180-годдзю памяці Тадэвуша Касцюшкі (адна з першых акцый гэтай грамадскай арганізацыі) прыйшлі прадстаўнікі амаль усіх замежных дыпламатычных прадстаўніцтваў. Пачынаецца новая старонка жыцця сапраўды цудоўнай навучальнай установы.

**Галіна БАГДАНАВА**

*На здымку: Л. Шахава.*

п'юць, — яны яшчэ і вядуць пры гэтым своеасаблівую і, часта, адмысловую гульню, у якую ўцягваюць бацькоў, жонку, дзяцей, сяброў, міліцыю і г. д. Яму мала таго, каб узяць ды выпіць. Яму, каб рэалізаваць гэтае сваё жаданне, патрэбен яшчэ і нейкі знешні штуршок. Яму патрэбна пэўнае ўзаемадачыненне са знешнім светам, бо ён усё ж не жывёліна, а чалавек. І ён правакуе, скажам, жонку на канфлікт, каб пакрыўдзіцца і тым самым знайсці прычыну для выпіўкі: маўляў, выпіў з гора, ад крыўды. Пасля ён знойдзе мазахістычную асалоду, калі яго ў стане алкагольнай дэпрэсіі ўшчуваюць, свараціа на яго. У выніку родныя і блізкія людзі валаводзяцца з алкаголікам вельмі працяглы час, шкадуючы яго, ашчаджаючы, аберагаючы, спадзеючыся на ўласныя ўгаворы-ўшчуванні і ягоныя шматразовыя абяцанні, дакараючы ў тым, што ён чарговы раз "сарваўся", не яго, а часта сябе ці іншых.

І самае горшае ў тым, што значная роля ў гэтай гульні належыць і афіцыйнай медыцыне, нашай саўковай, гэта значыць усё яшчэ савецкай наркалогіі. Урач, заведама ўсведамляючы сваё бяссілле, таксама ўключаецца ў гульню, выконвае ролю выратавальніка, праводзіць сеанс гіпнозу, выкарыстоўвае таблеткі "антабус", падшывае прэпарат "эсперальˮ. Усё гэта не лекі, гэта ўсяго толькі сродкі запалохвання.

У залежнай ад алкаголю асобы, якая пад націскам родзічаў, ці і без націску, рашылася на тую самую "падшыўку", скажам, у



псіхіцы па-ранейшаму захавалася цяга да выпіўкі. Да таго часу, пакуль існуе рэальная ці ўнушаная пагроза жыццю (жыць усё ж хочацца!), алкаголік устрымліваецца ад чаркі. Але як толькі час гэтай пагрозы мінае, "падшыты" ці "закадзіраваны" алкаголік тут жа "адпрацоўвае", ці "навёрствае", так бы мовіць, страчанае.

Сёння амаль ва ўсіх сродках масавай інфармацыі з дня ў дзень публікуюцца адрасы самых розных ратоўчых цэнтраў для алкаголікаў, распісваюцца цудадзейныя магчымасці іх аступененых ці не аступененых супрацоўнікаў. І шматлікія людзі, зняможаныя ад бяссільнага змагання з няшчасцямі сваіх блізкіх, адгукаюцца на гэтыя аб'явы, запісваюцца на чаргу, плацяць немалыя грошы ў надзеі на тое, што, можа, нарэшце Бог прынясе ім літасць. Што на гэта сказаць? На вялікі жаль, час даў прастору і магчымасці для праяўлення людской прадпрымальнасці, у тым ліку і для тых, для каго, як кажуць, грошы не пахнуць...

Адрознасць, нават унікальнасць метадаў працы з хворымі ў групах таварыства "АА" ад усялякіх іншых заключаецца якраз у тым, што тут падобныя алкагалічныя гульні немагчымы, яны выключаюцца цалкам. Згаданая праграма "12 крокаў" заснавана, як ні дзіўна прагучыць у дачыненні да членаў таварыства, на сумленнасці, шчырасці чалавека перад самім сабой. Перадумова, першы крок да выратавання ў групах "АА" для кожнага — гэта шчыра сказаць самому сабе: "Я — алкаголік. Быў ім, ёсць і буду. І ніхто мне не дапаможа, акрамя самога сябе і такіх жа, як я". Тут, пры такім стаўленні да сваёй хваробы, — не да гульняў. Адмаўленне, адыход ад алкагалічных, сацыяльных і псіхасацыяльных, гульняў — гэта цудоўнае дасягненне Мінесоцкай праграмы. Скажам нават гэтак: іскрынка, "цымус" яе ў тым, што тут працуюць над сабой і з сабой... цвярозыя алкаголікі.

## "Я ШЧАСЛІВЫ, ШТО Я АЛКАГОЛІК"

Пасля ўсяго гэтага я не магла не пазнаёміцца з гэтымі "АА". Пошукі прывялі на вуліцу В. Харужай, на чацвёрты паверх дома якраз насупраць Камароўскага рынку. Там, у адным з пакояў, месціцца, як цяпер гаворыцца, офіс гэтай арганізацыі ў Мінску. Офіс, ці, калі хочаце, штаб, мае назву: "Асветніцкая камісія па пытаннях алкагалічнай і наркатычнай залежнасці". Узначальвае яго Станіслаў Міхайлавіч **Каўроў**.

— Мэта нашай камісіі, — гаворыць сп. Каўроў, — аказаць рэальную дапамогу алкаголікам, бо алкагалізм — хвароба душы, найперш душы, а таксама і цела, і таму толькі праз духоўнасць, праз асвету можна змяніць жыццё чалавека. Мы рыхтуем тут спецыялістаў па праграме "12 крокаў", каб яны неслі яе далей, іншым няшчасным людзям. Мы цесна супрацоўнічаем з Міністэрствам аховы здароўя, з Міністэрствам адукацыі (бо дзеці пакутуюць ад алкагалізму бацькоў найбольш), з Міністэрствам унутраных спраў. Праграма "12 крокаў" працуе і прыносіць плён. Але, на жаль, грант, які мы ў свой час атрымалі ад Фонду Сораса, скончыўся, і сёння мы не маем сродкаў нават на тое, каб заплаціць за памяшканне. Я перакананы, што праграма вартая дзяржаўнай падтрымкі, аднак пакуль што я нідзе не знайшоў яе: ні ў згаданых вышэй міністэрствах, ні ў Мінгарвыканкаме, ні ў Адміністрацыі Прэзідэнта. Усюды падтрымліваюць на словах, даюць высокую ацэнку нашай рабоце, але дапамагчы не абяцаюць. Вельмі шкада, бо мы можам адкаціцца ў гэтай безумоўна карыснай рабоце на зыходныя пазіцыі і зноў пачынаць з нуля...

Не так даўно быў я ў Варшаве на семінары. Прывёз адтуль цікавую праграму, распрацаваную ў Міжнароднай арганізацыі працы, — "Прафілактыка алкагольнай залежнасці на рабочых месцах". Яна скіравана на тое, каб прафілактычна-выхаваўчая работа праводзілася непасрэдна на прадпрыемствах, на якіх працуюць алкаголікі. І гэта натуральна. Самы пітучы ўзрост — ад 18 да 60 гадоў, гэта якраз узрост працаздольнасці, людзі гэтыя праводзяць на рабочых месцах па 8—9 гадзін штодня. І калі навучыць усю кіруючую структуру прадпрыемстваў метадам гэтай прафілактычна-выхаваўчай работы, аддача будзе відавочная. На Захадзе такія праграмы даўно працуюць. А мы толькі-толькі пачынаем. Пачынаем з завода "Ударнік". Хочацца спадзявацца, што калі справа на "Ударніку" зрушыцца з месца, дык можна будзе з цягам часу разлічваць на спонсарскую дапамогу.

— Станіслаў Міхайлавіч, ці шмат груп "Ананімных алкаголікаў" у Мінску? Як яны ўзнікаюць і як працуюць?

— Людзі збіраюцца самі. Ніхто іх сілком туды не цягне. Іх прыводзіць адна бяда — алкагалізм. Яны там сустракаюцца з сябрамі па няшчасці, дзеляцца сваімі поспехамі і падзеннямі. Праграма "АА" дапамагае практычна ўсім, хто шчыра і сур'ёзна хоча, захацеў кінуць піць. Цвярозасць для іх — вышэй за ўсё. На сёння ў Мінску працуе 8 груп. Занатоўвайце: група "Надзея" (вул. Валгарадская, 63), "Першы крок" (Стаханаўская, 19), "Чаша жыцця" (Лермантава, 38), "Другое нараджэнне" (Каржанеўскага, 8, кв. 2), "Адраджэнне" (Маякоўскага, 162), "Сёмы дзень" (Перадавая, 11). Ёсць яшчэ дзве адметныя групы — адна для блізкіх і сяброў алкаголікаў і другая — для дзяцей ад 10 да 20 гадоў, бацькі ў якіх алкаголікі. Раю вам пазнаёміцца...

Пабыла я на сходзе (ці на вечарыне) у групе "Адраджэнне". У досыць прасторным пакоі сабралася чалавек пяцьдзесят. Кожнага, хто прыходзіў, сустракалі ветліва, прыязна. Вечарына пачалася хвілінай маўчання ў памяць тых, што загінулі ад алкаголю. А пасля... А пасля пачаліся людскія споведзі. Споведзі пра скарэжаныя лёсы, пра радасць вяртання да жыцця і пра надзеі дапамагчы сабе і іншым. Усё адбывалася да трымклівасці проста і... шчыра. Чалавек падымаўся, называў сваё імя (большага ніхто не вымагаў) і расказваў, як умеў, пра сябе. Адзіная ўмова для членства ў групе "АА" — жаданне кінуць піць.

Ва ўсім, што тычыцца алкаголю, яны стараліся быць максімальна шчырымі, сумленнымі. Яны ведаюць, што ў іх ёсць свабода выбару, і калі камусьці з іх захочацца раптам напіцца, ён можа гэта зрабіць, ніхто з прысутных у зале яму не забароніць, гэта залежыць толькі ад яго самога. Важна іншае: яны разумеюць, што яны — алкаголікі, што яны ніколі не змогуць выпіваць (ці ўжываць) пакрысе, час ад часу.

Паслухайце колькі іх споведзяў.

**Алег**: "Я шчалівы, што я алкаголік. Шчаслівы ад таго, што зразумеў гэта. Што мне не трэба больш хлусіць. Нікому. І ў першую чаргу самому сабе. У мяне цяпер два жыцці — да і пасля. "АА" далі мне новае жыццё. У тым, ранейшым, я страціў сям'ю, працу, кватэру, начаваў у падвалах, хацеў пакхвітацца з жыццём. Сёння ў мяне душэўная раўнавага, мой лёс — у маіх руках..."

**Саша**: "Я больш не мог біцца галавою аб сцены выцвярэзніка, не мог глядзець на доктара, які, акрамя падаўлення маёй волі, не мог мне даць нічога. Не мог больш чакаць спагады ад жонкі, нічога, акрамя пагрозы здаць у мянтоўку, — ад яе, адзінай і маёй жанчыны. Нічога не мог чакаць я больш і на працы, дзе быў на кручку і дзе мяне трывалі, пакуль быў на штосьці варты. Квінтэсенцыяй майго адчаю было жаданне знікнуць з твару зямлі. Здохнуць... Я сёння тут. Я не п'ю 2 гады. Я член сусветнага братэрства "АА". Калі я спатыкнуся, упасці мне не дадуць, мяне тут падтрымаюць, пададуць руку..."

**Таццяна**: "Я шчаслівая, што на свеце ёсць "АА". Гэта мая другая сям'я. Першую я страціла. Тут я набыла пачуццё ўпэўненасці, тут мяне разумеюць і прымаюць такой, якая я ёсць. Шчасце — гэта калі цябе разумеюць. Не ўсе грахі можна замаліць, але я стараюся. Я сёння сябе люблю, мне прыемна прачынацца і глядзець на сябе ў люстэрка. Раней жа з люстэрка на мяне глядзела незразумелае стварэнне, агіднае, азызлае... Без "АА" я не выжыла б..."

**Ларыса**: "Я шаснаццаты дзень цвярозая. Я піла заўсёды, калі ў мяне былі грошы. Атрымлівала аліменты на дачку, якую зараз выхоўвае мая старэнькая мама, і калі адразу ж не куплю чаго-небудзь з ежы, назаўтра ў мяне не было ні капейкі. Некалі працавала інжынерам, цяпер прыбіраю ў пад'ездах. Але цяпер я набыла веру. Мне падабаецца, што тут мы не чытаем адно аднаму натацый, не раздаем бессэнсоўных парад, не выказваем непатрэбнага спачування. Нам падабаецца думаць разам. Я і вы, мае супакутнікі, разумеем адно аднаго. Я веру ў сябе..."

**Вячаслаў**: "Я піў з 14 да 44 гадоў. Усё жыццё было скіравана на тое, каб здабыць выпіўку, усе справы — добрыя і дрэнныя — адзначаў выпіўкай. Перад тым, як уліцца ў гэтую чыстую плынь, я праплыў па мутных вадакрутах, брудных лужынах і каналізацыйных сцёках. Маё жыццё не мела сярэдзіны, былі толькі ўзлёты і падзенні. Усе, здавалася, былі супраць мяне: і маці, і жонкі, якіх у мяне было ажно 4, я меў 10 "падшывак", мяне хапала ад 2-х гадоў да 3-х гадзін. Цяпер я не п'ю чатыры з паловай гады, мой жыццёвы прынцып: "Не віп'еш першую чарку — не будзеш п'яны". Я трымаюся яго заўсёды, у "АА" знаходжу падтрымку..."

Усіх я не магу працытаваць, хоць і хацелася б. Але выснова напрошваецца відавочная: галоўная мэта ўсіх членаў "АА"—весці цвярозы лад жыцця самім і дапамагаць тым, хто прыходзіць да іх з просьбай аб паратунку...

## НЕ САМАЦЁК — КАНТРОЛЬ!

На завяршэнне гаворкі — яшчэ колькі высноў і назіранняў псіхатэрапеўта У. Іванова, чалавека ў вышэйшай ступені дасведчанага, аўтарытэтнага спецыяліста па праблемах выслабанення чалавека ад алкагольнай залежнасці. Вось што гаварыў Уладзімір Уладзіміравіч у час гутаркі са мною:

— Барацьба з алкаголем і алкагалізмам — праблема ўсё ж вырашальная. Толькі справа тут не ў медыкаментозных сродках, накшталт моднага сёння дарагакаштуючага інтэнсіўнага купіравання запойных станаў. Не выдам сакрэту, калі скажу, што зараз ёсць прыватныя медыцынскія брыгады, якія па начах ездзяць па выкліках алкаголікаў (новых беларусаў!), ставяць ім солевыя кропельніцы, нашпігоўваюць іх псіхатропным рэчывам, родасным па сваім уздзеянні на чалавечы арганізм з алкаголем. І гэта багаценькім алкаголікам падабаецца. Вось вам яшчэ адзін элемент колішняй гульні алкаголікаў. Як у той рэкламе: **новы** элемент! Ён п'е, атрымлівае ад гэтага задавальненне, потым не хварэе на пахмелле, не пакутуе, не шукае агурэчнага расолу, а за вялікія грошы выклікае доктара і "лечыцца". Яшчэ, бывае, і бюлетэнь на тры дні атрымае. І толькі тады, калі пляснецца на самае дно, — толькі тады ён, можа, задумаецца ці адумаецца. Ды — позна! Частка з іх гіне па-дурному ў бойках і аварыях, частка накладае на сябе рукі (узровень суіцыдальных паводзін у алкаголікаў у дзесяткі разоў вышэйшы, чым у нармальных людзей), частка памрэ ад унутраных хвароб — хвароб сэрца і цырозу печані, нехта звернецца ў групы "АА".

Справа, паўтару, не ў леках і кропельніцах. Мы ведаем, што бессэнсоўна ўкладваць дзяржаўныя рэсурсы ў прамыванне крываносных сасудаў алкаголіка. Рэсурсы трэба ўкладваць у прафілактычныя мерапрыемствы, у добрыя, спагадлівыя тэрапеўтычныя праграмы, якія скіраваны на разбурэнне стэрэатыпу алкагольнага мыслення, на разбурэнне алкагольных гульняў. Гэтая прафілактыка павінна весціся на вытворчасці, у навучальных установах, у тым ліку ў школах і ПТВ. Укладваючы грошы ў прафілактыку, мы атрымаем куды большую аддачу, чым калі б укладвалі іх у інтэнсіўную тэрапію.

Варта таксама сур'ёзна задумацца над праблемамі вытворчасці і рэалізацыі алкагольных напояў. Еўропа, напрыклад, ужо некалькі гадоў запар ажыццяўляе праграму па зніжэнні вытворчасці і спажывання алкаголю. Тое ж назіраецца і ў ЗША. Там за апошнія 10 гадоў вытворчасць п'янкіх напояў значна скарацілася, а вось выпуск мінеральнай вады — падвоіўся, а 75 працэнтаў напояў, якія ЗША імпартуе з Францыі, скажам, з'яўляюцца безалкагольнымі.

Мы павінны памятаць, што алкаголікі складаюць у нас недзе 6 працэнтаў насельніцтва. З нашых 10 мільёнаў — гэта 600 тысяч чалавек. Гэта больш, чым насельніцтва любога нашага абласнога цэнтра. А калі адкінуць дзяцей, хворых, старых, цяжарных жанчын і тых, хто зусім не ўжывае спіртнога? Што мы ў такім разе будзем мець? Ды не будзем мець, а — маем. Маем кожнага пятага дарослага працаздольнага чалавека — алкаголіка.

Прыгадаем час, калі Гарбачоў з Лігачовым увялі ў былым СССР антыалкагольны закон і калі ў выніку яго ажыццяўлення спажыванне алкагольных напояў досыць прыкметна знізілася. І што назіралі неўзабаве? Ужо недзе праз год, у 1987—88 гадах, у 4 разы знізілася колькасць захворванняў на алкагольныя псіхозы і ў 2 разы — смяротнасць ад алкагольных атручванняў. Нагадаю яшчэ дзве лічбы. У 1984 годзе было зафіксавана ў Беларусі 1500 выпадкаў алкагольнага псіхозу, а праз чатыры гады, у 1988 годзе, калі дзейнічаў антыалкагольны закон, — усяго 400 выпадкаў. Сёння, калі ў нас зноў набрала тэмпы алкагольная вытворчасць, гэтая статыстыка зноў вярнулася да ўзроўню 1984 года і нават перавысіла яго.

Я не за сухі закон, але я ўсё ж хачу заняць аб'ектыўную пазіцыю і сказаць, што дзяржава можа і павінна ўплываць на гэтыя працэсы і не дапусціць татальнай дэградацыі нацыі. Урэшце — будзем глядзець праўдзе ў вочы — народа нашага. Сёння ж усялякі кантроль, калі зноў жа рэзаць праўду-матку, страчаны, спіртное можна купіць у любы час дня і ночы, ды і кошт яго параўнаўча танны ў агульнай харчовай карзіне. Прынамсі, пляшка гарэлкі каштуе танней, чым кілаграм мяса.

— Трэба думаць пра будучыню, — сказаў на завяршэнне мой суразмоўнік, — пра тое, як будуць жыць нашы дзеці і ўнукі. Хоць бы праз нейкіх дзесяць гадоў, у самым пачатку новага тысячагоддзя. Будзем спадзявацца, што наш урад распрацуе дзяржаўную праграму па пераадоленні алкагалізму, якая будзе працаваць многія гады. І толькі тады мы адчуем рэальныя вынікі. А грошы знайсці можна. Тыя, хто выпускае алкаголь, павінен адлічваць пэўныя працэнты на гэтую выратавальную праграму. Таму праграма барацьбы з алкагалізмам павінна быць разумнай, прадуманай і доўгатэрміновай.

Мне застаецца адно толькі падпісацца пад словамі Уладзіміра Уладзіміравіча.

**Марыя МІХАЙЛАВА**

ГАСЦЁЎНЯ

***Падштурхнула мяне пайсці ў Дом друку на Б. Хмяльніцкага і сустрэцца там з Таісай Мікалаеўнай Бондар адно яе выказванне. Вось яно: “Канешне, каб мяне як галоўнага рэдактара часопіса трывожыла толькі нежаданне часткі беларускіх літаратараў падтрымліваць часопіс, супрацоўнічаць з ім, я не звярталася б да грамадскасці і праз яе — да кіраўніцтва рэспублікі. Але пастаянны (а ён пачаўся адразу ж пасля выхаду першага нумара часопіса) ціск апазіцыі, на жаль, стаў уплываць на арганізацыі, якія заснавалі часопіс, што не можа не выклікаць горычы і недаўмення”. (“СБ”, 26.08.97. N 161). Другое выказванне пісьменніцы прыгадалася, калі я ўжо пакідала Дом друку: “Чалавек — тое, на што мы асуджаны...” (З аповесці “Лісты наўздагон”).***

# Таіса БОНДАР: “Літаратура і палітыка — розныя рэчы...”

**— Таіса Мікалаеўна, дык у якім жа становішчы знаходзіцца зараз часопіс “Всемирная литература”?**

— Мы жывём, хаця пагроза прыпынення фінансавання часопіса ў наступным годзе існуе. Засмучае, што беларускія літаратары амаль усе дружна выступілі супраць нашага выдання, — хутчэй, супраць таго, што ён выдаецца на рускай мове! Але ж паглядзіце самі: раней беларускіх пісьменнікаў выдавалі ў Маскве, і праз рускую мову яны ішлі ў свет... Цяпер жа нічога таго няма!.. Можа, вы не паверыце, але нават у Прыбалтыцы такія часопісы ёсць!.. Усё ж такі мы не губляем марна часу, і хочам расчысціць для нашай літаратуры выхад па-за межы краіны. “Всемирная литература” на наступны год аб’явіла падліску ў Расіі, 4 лістапада ў Маскве адбылася прэзентацыя нашага часопіса (дарэчы, у “Литгазете” ён быў ужо прадстаўлены расійскаму чытачу)... І як можна не скарыстаць такую магчымасць (якой раней бы ганарыліся!) і адмаўляцца супрацоўнічаць з намі?! Наша выданне толькі-толькі пачынае набываць свой твар, не ўсё яшчэ добра, безумоўна, праблем хапае. І мая роля, як рэдактара, — зрабіць усё магчымае, каб часопіс стаў асяродкам культуры, асяродкам духоўнасці. Вакол яго ўжо пачалі збірацца людзі духоўна арыентаваныя: прафесура, моладзь, што абараняе дысертацыі па замежнай літаратуры... А якія цікавыя аўтары з’яўляюцца ў рэдакцыі! І ўсё ж, безумоўна, наша першасная задача — барацьба за падпіску ды пошукі спонсараў...

**— Таіса Мікалаеўна, а што ж тады — патрыятызм? Ці гэта ўжо зусім састарэлае паняцце?**

— Патрыятызм для мяне — гатоўнасць аддаць сваю працу, свой талент дзяржаве. Не ўвесь жа ён у тым, каб бегаць з лозунгамі. Мне і ў благім сне не прысніцца абразіць свой народ, сказаць, што ён, яго мысленне не адпавядае моманту або палітычнай ідэі: народ такі, які ён ёсць... Пазняка нельга прыняць адно за зварот да народа: ты быдла, бо не размаўляеш па-беларуску. Дзякаваць Богу, мне б і ў галаву не прыйшло (ведаючы гісторыю беларусаў) абвінаваціць іх за гэту гісторыю. Лічу, што самасвядомасць можа мець толькі чалавек духоўна арыентаваны. І нельга ж не прызнаць, што для таго, каб паспрыяць росту самасвядомасці людзей, з імі трэба гаварыць. Прытым на той мове, якую яны разумеюць. Трэба паступова — усім жыццём сваім, усёй творчасцю — даводзіць, што беларуская мова — самая прыгожая ў свеце. Па-добраму, з любоўю...

**— Нядаўна ў адной з газет вы пісалі пра “своеасаблівы магніт устойлівасці” беларусаў, іх жаданне міру “з усімі, нават з ворагамі гэтага міру”. І далей: “І зусім не з-за “рабскай псіхалогіі”, якую прыпісвае свайму народу нацыянал-радыкальная частка інтэлігенцыі! У глыбіні народнай душы, на ўзроўні геннай памяці захоўваецца код яго шляху, яго місіі”. А ці не здаецца вам, што апошнім часам толькі так званая нацыянал-радыкальная частка інтэлігенцыі свядома і захоўвае гэты код?**

— А чаму мы ўвесь час, гаворачы пра народ, маем на ўвазе насельнікаў Мінска? Чаму мы лічым, што мова без інтэлігенцыі памрэ? Нават пры самай шалёнай русіфікацыі беларусы захоўвалі і захавалі сваю мову. Я неаднойчы казала і яшчэ раз паўтару: нельга інтэлігенцыі лічыць сябе вышэй за народ! А трэба больш з моладдзю працаваць — дзеля будучыні нацыі! І з творчай моладдзю — у першую чаргу. Але ж і не ў надта далёкія часы такая праца вялася рэдка, а сёння ўвогуле не вядзецца...

**— Дарэчы, вы ўваходзілі ў літаратуру ў так званыя “застойныя” часы...**

— Так. Кожны чалавек жыве ў пэўным асяроддзі, у пэўным часе. У адрозненне ад “шасцідзесятнікаў”, якіх лёгка было абвінаваціць у “двурушніцтве”, у пагоні за славай любою цаной, наша пакаленне было ў літаратуры больш шчырым. Гэта лёгка праверыць, як кажуць, па тэкстах. Сённяшнія вялікія апазіцыянеры ад літаратуры заўсёды бачылі ў ёй толькі сябе: увесь час узнікала ўражанне, што думаюць адно, а пішуць зусім іншае... Сярод тых, каму яны так і не саступілі дарогу, якраз і з’явіліся літаратары, што пісалі пра шчырыя чалавечыя адносіны. Здаецца, і не сакрэт ні для каго: кожны чалавек можа пісаць толькі тое, што ў ягонай душы. І не важна, у якім пакаленні. А калі ўжо чалавек падладжваецца пад нейкі час... — і не важна — пад сацрэалізм, як раней, ці пад тую дэмакратыю, якой няма... У паэзіі можна застацца толькі ўлічваючы яе законы — ідучы ад эмоцый, на якія багатыя ў маладосці, да філасофскіх разваг — ужо сталым паэтам. Менавіта такі шлях прайшлі Куляшоў, Танк... Калі ж, будучы сталым паэтам, не задумваешся над вечнымі пытаннямі Светабудовы, трэба пісаць нешта іншае... Чытача ж не падманеш! І наша пакаленне ў гэтым больш чэснае, бо мы паэзію не эксплуатавалі, робячы яе служкаю сваёй славы. І хіба не дзіўны той факт, што пасля Максіма Танка не прыгадаць ніводнага (!) выступлення ў друку, у якім хто-небудзь назваў бы хоць адно прозвішча таленавітага маладога літаратара?!

**— Дарэчы, пра пераемнасць пакаленняў... Скажыце, як вы адносіцеся да выказвання, што сапраўдная беларуская літаратура пачынаецца толькі сёння?**

— Так кожнае пакаленне лічыла! Гэта нармальна. Маладыя толькі так і могуць увайсці ў літаратуру. Праз дзесяць гадоў яны ўжо так



гаварыць не будуць. І самая галоўная парада маладым — не даць сябе зламаць! Бо колькі яшчэ давядзецца прайсці ўсяго ў жыцці — спакусаў шмат! Цяпер я разумею сталых пісьменнікаў, якія выбіралі адзіноцтва... У маладых усё гэта яшчэ наперадзе, і, дай Бог, каб яны вытрывалі.

**— Таіса Мікалаеўна, у 94-м вы неяк сказалі: “Калі што па-сапраўднаму засмучае сёння, то адсутнасць віны, агульная адсутнасць віны...”**

— Усё гэта вельмі добра выкладзена ў маім рамане “Ахвяры”, рамане, на старонках якога сустракаюцца розныя пакаленні. Сёння ўсё тое, што было ўчора, адмаўляецца — і адмаўляецца адназначна. Па сутнасці ж, усе мы — ахвяры. Толькі — як можна проста перакрэсліць час, падабаецца ён альбо не? Нельга ні адну віну ў жыцці спісаць на некага. Чалавек, хоча ён таго ці не, звязаны з часам, з гісторыяй народа... Калі не — дык ён ужо, канешне, не творца. Кажуць жа, што пісьменнік — гэта інструмент Бога, і нічога ён не можа без натхнення, без памкнення прыслухацца да лепшага ў сабе. Таму якім жыццём ты жывеш, пра тое можаш і пісаць.

**— Таіса Мікалаеўна, эпіграфам да аповесці “Жывыя жывуць” вы ўзялі словы Луі Арагона: “Не шукайце біяграфій у біяграфіях. Гэта... толькі рамы, шыўкі, заўсёды гатовыя разысціся, рубцы, якія ныюць у навальніцу, болі, асуджаныя якім-небудзь чортавым дожджыкам, з хмарамі на небе... Ад таго, што адчуваеш, нікуды не ўцячэш”. Якое самае моцнае адчуванне вы згадваеце са сваёй біяграфіі?**

— Самае моцнае адчуванне, якое жыло ўва мне з дзяцінства, — адчуванне таго, што ў мяне ёсць свой шлях, і яго я павінна знайсці і прайсці да канца. У чым толькі я сябе ні спрабавала!.. І не дзіўна. Самае складанае ў жыцці, як сёння разумею, — знайсці сваё месца на зямлі. Для мяне і адчуванне Бога — гэта адчуванне сваёй місіі на зямлі, гэта тая іскра, якая разгараецца ў душы...

**— Раскажыце пра сваю сям’ю.**

— Мужа я страціла 5 гадоў таму. У мяне ёсць адзін сын. У яго свая сям’я, жывём мы асобна. Але самае галоўнае, што ён — з тых людзей, якія задумваюцца над жыццём, спрабуюць узважваць свае крокі...

**— І апошняе пытанне. Пытанне з разраду палітычных, бо ад гэтага нікуды не дзенешся. Славамір Адамовіч (а ён хоча ўступіць у Саюз пісьменнікаў)...**

— А як жа!

**— ...у інтэрв’ю газеце “Свобод ыые новости” кінуў у ваш адрас такія словы: “...Мала прыемнага ў суседстве пад дахам саюза з Тасяй Бондар. У той час, як група пісьменнікаў пікетуе Дом літаратара, які спрабуюць перадаць у ведамства Ціцянкова, Бондар выступае ў “Советской Белоруссии”: з беларускай культурай усё ў парадку, са школамі, ліцэем праблем таксама няма, ніхто нікога не ціснe”. Як пракаментуеце гэтыя словы?**

— А што тут каментаваць! Па-першае, гэтых слоў я не пісала, у “СБ” я проста спрабавала абараніць часопіс, патрэбны не мне асабіста, а рэспубліцы. Па-другое, я ведаю цану Адамовічу і яго словам. Для таго ж, каб стаць са мной побач, яму трэба трошкі ладрасці. Літаратура і палітыка — розныя рэчы, але і ў літаратуры, і ў палітыцы кожны выбірае сваю кропку адліку і бярэ на сябе сваю ношку адказнасці.

**Інтэрв’ю ўзяла Раіса МШАР**

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Атэізм перамагае, каб шчыра верылі ў Бога, столькі мату не было б у размовах.

●

Няясна, якія прызрыстыя? Пакуль што чыстыя. Што з імі робіцца? Скажам, калі ўробяцца. Такія цяпер падапечныя — не праглядваюцца, не прасвечваюцца. Абазначацца, аднак, безумоўна — прагаворваюцца праслухоўваемыя.

●

Да выхаду кнігі Грымэльсгаўзена ў перакладзе Сёмухі. З нараджэннем, Сімпліцысімус, крэўны Несцеркі і Швейка. Дзякуй Богу, смехалісімусаў разрастаецца сямейка. Сын сялянскі па паходжанні, колькі вымудраў за ім. Мо і Сёмухава прозвішча нейкім чынам... псеўданім? Мо і гэта транспазіцыя таго самага Сімпліцыя?

●

— Ападкі, ападкі, ападкі абрынуліся на саўгас. А яшчэ ўчора сталіца гарантавала надвор’е. — Замаўчы, няшчасны, у гэты трывожны час лепш верыць сталіцы, чым надвор’ю.

●

Не забываецца “феномен Кашпіроўскага”. Усіх дурыць вось так па-мастакоўску, тут трэба быць ці злодзеем ці геніем, дакладней, можа, геніем зладзейства, так разгарнуць такое тэледзейства!.. А мо ўсё ад нашае натуры, што час ад часу нам патрэбны “гуру”. Ардынарны ўрач з Днепрапятроўшчыны хіба апошні з мастакоў шальмоўства?

●

— Дзед, на сонцы ёсць плямы, а на плямах ці ёсць сонца? — Малышок, бачыш вунь той плявок, дык у ім на донцы — сонца. Плямы з сонцам не цырымоняцца, вось і яно неяк бароніцца. І так бясконца — то плямы адольваюць, то сонца.

●

“Палутарку” прыдумаў нехта лоўка, разумная варыла галава. Усё тая ж васемнаццаціметроўка, адзін пакой, а калі хочаш — два. Калега запрасіў мяне на гутарку ў сваю бакоўку пры сваёй палутарцы.

●

Рэклама перадач. Усё на тэлебачанні — рэклама, рэклама ўскосна і рэклама прама. А самая адкрытая рэклама ў перадачах “Рэзананс” і “Панарама”. Уключыцеся і ацаніце самі: які ў “Панарамы” рэзананс і якая ў “Рэзанансе” панарама.


ЛіМ — Літаратура і мастацтва. Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА





АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 5823
Нумар падпісаны ў друк 27.11.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 7084/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12